


Віншуем Гайнаўку → 3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




Студзіводы Сегяневічаў → 8


http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 39 (3307) Год LXIV | Беласток, 29 верасня 2019 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


**„Byłem z wami, jestem i zawsze będę” — гэтыя словы святой памяці айца Гаўрыіла высечаны на магільнай пліце ў Адрынках. Тут спачывае заснавальнік першай пустэльні ў Польшчы, харызматычны манах, які сваім жыццём паказаў, што не толькі аблачэнне робіць з чалавека манаха.**

15 верасня Царква ўспамінае святога Антонія — аднаго з нябесных заступнікаў праваслаўнага скіта ў гонар святых Антонія і Феадосія Кіева-Пячэрскіх. Скіт ва ўрочышчы Кудак над ракой Нарвай заснаваў менавіта архімандрыт Гаўрыіл. Першую багаслужбу здзейсніў тут у чэрвені 2009, а сёлета ў гэтым месцы быў асвечаны помнік на яго магіле.

**У Адрынках не сціхаюць малітвы**

Архімандрыт Гаўрыіл ад пачатку свайго рэлігійнага шляху быў звязаны з манастыром Дабравешчання Прасвятой Дзевы Марыі ў Супраслі — адным з найважнейшых цэнтраў манаскага царкоўнага жыцця ў краіне. З траўня 2000 года айцец Гаўрыіл амаль восем гадоў быў таксама яго настаяцелем. У 2007 годзе абараніў доктарскую дысертацыю „Заблудаў, як культурны і рэлігійны цэнтр Праваслаўнай царквы”.




# Над магілай айца Гаўрыіла

У красавіку 2008 г не прыняў епіскапскага звання, не хаваючы, што хацеў бы застацца ў Супрасльскім манастыры. У канчатковым выніку яго адстаўка была прынята саборам епіскапаў Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, а ён сам са студзеня 2009 года арганізаваў першы скіт ПАПЦ. На поўных буслоў лугах айцец Гаўрыіл заснаваў сваю пустэльню. Пачынаў з некалькіх калоў забітых у зямлю, якія былі яго хаткай. Аднак так патрабавальнае месца не было выпадковым. Стварэнне скіта ў Адрынках звязана з легендай. У 1518 годзе князь Іван Міхайлавіч Вішнявецкі падчас паездкі ў Вільню ўбачыў святло перад іконай св. Антонія. Парушаны незвычайным відовішчам ён узвёў капліцу каля гарадзішча пад назвай Кудак. Вось так паўстаў манастыр Узнясення Гасподняга каля вёскі Адрынкі ў Блудаўскай пушчы, якая тады належала роду Хадкевічаў. Манастыр быў заснаваны манахамі Супрасльскай лаўры, дзе культ св. Антонія Пячэрскага заставаўся жывы з-за кантактаў з Кіева-Пячэрскай лаўрай.

Гэтае месца ад пяці стагоддзяў упісваецца ў гісторыю праваслаўя, хаця манастыр спыніў існаванне ў XIX стагоддзі. Архімандрыт Гаўрыіл аднавіў традыцыю пустэльнага жыцця (праўда, з выкарыстаннем цывілізацыйных здабыткаў) па ўзоры манахаў Супрасльскай лаўры шаснаццатага стагоддзя. Ён таксама займаўся лячэннем зёлкамі, але таксама, паводле сведак, памагаў людзям звыклай размовай ці парадамі. Можна сказаць, што айцец Гаўрыіл як манах паступова пачаў станавіцца чалавекам без радзімы, без дому, без сям'і, без дакументаў. Тут, на пустэльні, ён змог быць дастаткова вольным, каб стаць братам сваіх братоў, кім бы яны не былі, і стаць жабраком — «Божым жабраком».







**Свята ў Адрынках**

15 верасня адзначаецца свята заступнікаў скіта ў Адрынках над Нарвай — святых Антонія і Феадосія. Сёлета яно выпала ў нядзелю і было першым без архімандрыта Гаўрыіла. Святую літургію ўзначалілі супрасльскі епіскап Андрэй і сямятыцкі епіскап Варсонофій у саслужэнні шматлікіх святароў.

Як штогод на свята ў скіт прыбыло некалькі соцень вернікаў, якія са слёзамі ўспаміналі архімандрыта.

— Бачыце, якое ў нас свята Антонія і Феадосія! Народ, дзякуй Богу, плыве сюды, таму што тут намоленае месца, — сказаў вернік. — І няма айца ў жывых, але памяць пра яго і ягоная магіла прыцягваюць людзей. Людзі яго помняць, ведаюць і ніколі не забудуць.

Па сёння гэтае месца наведваюць людзі розных веравызнанняў, якія прыязджаюць сюды не толькі з усёй Польшчы, але і з-за мяжы. Скіт надзвычай цэніцца за цішыню, спакой і прыгажосць. Самае галоўнае, што прыцягвала вернікаў, гэта асоба айца Гаўрыіла, які заўсёды знаходзіў час, каб пагаварыць з кожным чалавекам.

— Ён вучыў сціпласці, веры ў Бога. Ён быў вельмі добрым чалавекам. Вельмі шмат людзей яго ўспамінае добрым словам. Я думала не ехаць, бо ўчора ўвечары мне было цяжка, але сёння, калі пачула, што такое свята, то не дала рады ўседзець. Яшчэ прыязджаю на скутары, даю рады. Дзякуй Богу за ўсё!

У час урачыстасці быў асвечаны помнік на магіле святой памяці айца Гаўрыіла. Скіт быў месцам, які спалучаў атмасферу праваслаўнай узвышанасці з цеплынёй айца Гаўрыіла. Гэтае месца давала пачуццё духоўнага спакою і веры ў лепшае. І так застаецца па сённяшні дзень.

Тэкст і фота
**Уршулі ШУБЗДЫ**



# Пра тое, „чаго няма”

Сёлетні верасень у Беларусі — гэта не толькі традыцыйныя капанне бульбы, выбіранне і цярабленне буракоў, збор грыбоў, выпраўленне дзяцей у школу і даставанне цёплых апранах з шаф і шуфляд. Не толькі надыход восені з яе непазбежнай слатой, калейдаскапічнай зменай дажджоў і сонца, кароткімі змрочнымі вечарамі і халоднымі дамамі перад ацяпляльным сезонам. Яшчэ на гэты верасень прыпала і так званая выбарчая кампанія ў нібыта парламент Беларусі. Усім даўно вядома, што аніякіх выбараў у Беларусі няма, што даўно створана сістэма татальных фальсіфікацый — ад кожнага выбарчага ўчастка на доле да самай вяршыні — Цэнтральнай выбарчай камісіі. Гэтая ЦэВэКа на чале з нязменнай і адыёзнай Лідзіяй Ярмошынай (яна на пасадзе старшыні ажно з 1996 года!) як ярмо на шыі катаржніка. Яе не змяніць, не сагнаць, не пераабраць. Сама таварыш кіраўнік ЦВК даўно ўжо пайшла б на пенсію, аднак яе не адпускае Вярхоўны Галоўнакамандуючы. Як любіў гаварыць яго даўні кумір — „Кадры вырашаюць усё!”

Якімі толькі сінонімамі не называюць гэтую дзяржаўную акцыю па пралангацыі народных паўнамоцтваў — і „выбары ў палату № 6”, і „выбары-дурыбары”, і „выбары-вырабы”, і ўрэшце „тое, чаго няма”. Дык вось выбараў няма, але нейкі выбарчы працэс усё ж ідзе. З дзяржаўнымі вылучэнцамі ў дэпутаты то ўсё ясна — кандыдатуры ўзгоднены, спісы даўно складзены, засталіся толькі рытуальныя фармальнасці. Для чыноўнікаў, якія трапляюць у так званы парламент — Палату прадстаўнікоў — гэта найвышэйшая ўзнагарода, сапраўдная сінекура. Трапіць з „вертыкалі”, дзе кожны дзень можна атрымаць „па шапцы” зверху, з выканаўчай улады, куды перыядычна скіроўваецца гнеў Зеўса Грамавержца, сапраўднае шчасце бюракрата. Канешне ў „палатцы” не тыя магчымасці і хіба ніжэйшыя заробкі, але ж там цёпла, утульна і зусім не страшна. Сядзіш сабе бясклапотна і толькі сочыш, каб не праблытаць спрасоння патрэбную кнопку. Я б у такім парламенце, які практычна заўсёды галасуе аднагалосна, увогуле каля кожнага дэпутацкага крэсла і століка зрабіў бы па адной кнопцы. Каб не напружваць „народных абраннікаў”. А можа не трэба і ніякай кнопкі. Хай бы рукі падымалі пры галасаванні — патрэбная ж нейкая фізічная зарадка і глядзелася б харашэй. Дзеля паўнаты праўдзівай карціны мушу толькі ўдакладніць, што не заўжды галасаванне ў апошнім парламенце было аднагалосным — прыгадаем эксперымент з пропускам у вышэйшы заканадаўчы орган дзвюх дэмакратычных прадстаўніц, якія перыядычна галасавалі „супраць”.

А вось за прадстаўнікамі дэмакратычнай апазіцыі, якія ўдзельнічаюць у гэтым выбарчым спектаклі з заранёў прадказальным фіналам, сачыць куды цікавей. Спектр гэтых удзельнікаў, якія паводле ўладнага сцэнарыя павінны выканаць ролю статыстаў, вельмі шырокі. Ад штатных легітыматараў працэсу да шчырых і наіўных людзей, якія зусім нядаўна ангажаваліся ў палітыку, ад прайдзісветаў і ашуканцаў — да сапраўдных змагароў, якія праз гады даказалі сваю патрыятычную пазіцыю. Таму асабіста я не схільны да катэгарычна негатыўных ацэнак гэтага кола ўдзельнікаў. Хапае і без мяне тых, хто не шкадуе ў сваіх публікацыях і сацсетках чорных фарбаў у дачыненні да дэмакратычных вылучэнцаў. Бо ўсё ж некаторыя з удзельнікаў працэсу сапраўды імкнуцца паламаць заганны сцэнарый улады.

Толькі з многімі прыхільнікамі ўдзелу ў гэтых выбарах цяжка пагадзіцца ў некаторых аргументах. Прыкладам, з тым, што такая выбарчая кампанія — адзіная магчымасць працаваць з людзьмі, даводзіць ім свае погляды і пазіцыю. Бо размаўляць з людзьмі, збіраць подпісы за нешта, рабіць карысныя грамадскія справы і таму падобнае можна ў кожны час. Другі аргумент, што на выбарах трэба „ісці да канца” зусім падаецца ні то хціваснцю, ні то нейкай дзіўнай цвёрдалобасцю. Бо, калі б гэтыя прадстаўнікі дэмакратычнай апазіцыі, правёўшы працу і агітацыю выбаршчыкаў, дружна знялі свае кандыдатуры перад галасаваннем, то гэта было б эфектным ламаннем уладнага сцэнарыя. Але ж такога, на жаль, дакладна не адбудзецца.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Наша Куканія

Аповеды пра краіну сытасці і дабрабыту, з якіх некаторыя складаліся ў легенды, заўсёды сілкавалі народную фантазію. Гэта было месца, дзе людзі маглі «есці і піць усё, што хочуць, без небяспекі», як сведчыць сярэднявечны летапісец. Гэта менавіта там, дзе «чым больш спіш, тым больш зарабляеш». У гэтай зямлі цякуць малочныя рэкі з кісельнымі берагамі, каўбасы растуць на дрэвах, тлустая вяндліна замяняе вулічны брук, у студнях пеніцца піва, а гарачы хлеб сам выскоквае з печаў... Сапраўды, фантазія чалавека не паважае ані законаў фізікі, ані нават звычайнай гравітацыі. Чым больш, тым большы недахоп. Галодныя прагнулі жыцця хаця б ва ўяўнай сытасці. Гэтая туга праявілася ў аповедах пра надуманую зямлю. У Заходняй Еўропе яе называлі Куканіяй або Шлярафіяй. Магчыма, падобныя землі былі створаны і ўяўленнем славян, як у казках пра чарадзейны столік, на якім цудам з'яўлялася рознае смакоцце кожны раз, калі яго засцілалі, або пра нявыпітную біклагу з мёдам, што даказвае, што славяне масава засялялі свае ўяўныя Кукініі. Гэтую мрою, фантазію, якая лагодзіла пастаянны голад, асабліва ў сярэднявеччы, калі дэфіцыт бялкоў і тлушчу быў рэзкім, не абавязкова можна прылічыць у магічную сферу. У сярэднявеччы недаяданнем пакутавала амаль 90% тагачаснага насельніцтва. Калі некаторыя з іх жэрлі мяса і хлеб па сваім жаданні, астатнія глыталі на абед слінку. Улада, якую ажыццяўлялі першыя, была элітнай і эгаістычнай. Недаяданне апошніх — эгалітарнае і, з-за феадальнай іерархічнасці, правільнае. Насычанасць ці нават перанасычанасць былі праявай сілы, часовай раскошы абраннікаў, што не азначае, што гэта было забаронена іншым у сферы фантазіі. Галодныя фантазіі былі заменай сытасці і надзеі на адносную роўнасць усіх людзей, якія «стануць аднолькава перад Богам». Найпрыгажэй тугу па Куканіі праілюстраваў вобраз мастака XVI стагоддзя Пітэра Брэйгеля Старэйшага, у якім напітыя як бонкі сяляне, мяркуючы па вопратцы — багатыя і бедныя, качаюцца з набраклымі жыватамі ў лужынах алкагольных блевакоў пад сталамі з рэшткамі ежы і напояў, якіх хопіць на шматдзённае баляванне, а, можа, і на ўсё жыццё. Аднак, Брэйгель быццам па-за сваёй карцінай задаецца пытаннем: ці гэта мера чалавечага шчасця?

Але здарылася нешта дзіўнае — народная фантазія перайшла межы фантастыкі, увасабляючы рэчаіснасць і больш нідзе, акрамя сучаснай Польшчы. Тут з'явілася ўлада, якая дзеліцца з людам сытасцю як паказчыкам сваёй магутнасці, карміўшы яго дарма, а фактычна карміўшы яго ўсялякімі «плюсамі», памножанымі на наступныя перадвыбарныя «плюсы». Такім чынам Куканія цалкам матэрыялізавалася. Па найбольш відавочных прычынах, з невыразнымі наступствамі. Я лічу, што ніякая ўлада, нават самая несправядлівая, эгаістычная і абмежавальная, не можа існаваць для ўласнага ўжытку ў такой ступені, як не можа быць улады, нават самай справядлівай і ахвярнай для кіраваных, якая дзейнічала б дзеля іх карысці. Такое функцыянаванне ўлады ні для сябе, ні толькі для іншых немагчыма ў доўгатэрміновай перспектыве. У першым выпадку рана ці позна адбываецца рэвалюцыя чалавечай роспачы, і такая ўлада альбо распадаецца, альбо яе структура кардынальна мяняецца, то-бок мяняюцца кіруючыя эліты і філасофія, якая вызначае метады іх кіравання. У другім — калі ўлада мела сапраўды добразычлівыя формы, арганізм мас з цягам часу завалачэ яе сваімі крыўдамі, патрабаваннямі, чаканнямі і, нарэшце, цалкам паглыне яе як крывавы экхімоз. Кожны раз гэта прыводзіць да знікнення ўлады і анархізацыі грамадскага існавання. Да цывілізацыйнага рэгрэсу. Да хаосу. Існаванне гэтых утварэнняў грунтуецца на суіснаванні, і гэта беспаваротнае і ўзаемазалежнае стаўленне. Кожны з іх мае розныя асноўныя мэты. Улада — эфектыўна кіраваць — ці то дзеля інтарэсаў улады, ці кіраваных ёю, кіраваныя — каб кіравалі імі даволі незаўважна. Што азначае проста, каб улада была не занадта прыгнятальнай. Усё астатняе з'яўляецца перыферыйным, але менавіта на іхняй стыкоўцы пастаянна іскрыцца. Напіраюць на сябе, як тэктанічныя пліты, інтарэсы ўлад і грамадскасці. Менавіта там узмацняюцца адмысловыя канфлікты паміж уладай і кіраванымі, што фактычна становіць аб іх як двух аб'ектах. Гэта пытанні ўзаемасувязі паміж асобнымі асобамі, асобамі і ўладай дзеля размеркавання тавараў. Гэта нарматыўныя і звычайныя законы, а таксама спосабы іх выканання і мэты, якія ім трэба дасягнуць. Гэта пытанне кампетэнцыі і сілы, гэта права на годнае жыццё і надзею на будучыню.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Шанц на аўтобусы

Некалькі тыдняў назад чарговы раз я пісаў пра камунікацыйнае, аўтобуснае выключэнне ў нашай прасторы і шанцы атрымаць грошы на аднаўленне маршрутаў з дзяржаўнай праграмы падляшскага ваяводы. Падляшскае ваяводства з урадавага Фонду развіцця аўтобусных перавозак атрымала да канца 2019 года суму 24,8 млн. злотых. Паставіў я тады пытанне, ці нашы самаўрады стартануць у гэтай праграме, каб даць шанц прыехаць і выехаць мясцовым аўтахтонам і іхнім сямейнікам, якія звыш дзясятка гадоў не нюхалі ўжо дыму рэйсавага аўтобуса. Вынікі набору былі аб'яўлены ваяводам у канцы мінулага месяца з пачаткам дафінансавання з першага верасня. Трэба сказаць, што першы этап праграмы ў маштабе ваяводства не пакарыстаўся асаблівай зацікаўленасцю з боку лакальных ўладароў. Мабыць, тут спрацавалі два фактары. Першы — кароткі тэрмін падачы заяў: з другога па дванаццатае жніўня. Дзесяць дзён для падрыхтоўкі патрэбных дакументаў аказаліся не пад сілу многім самаўрадаўцам. Аднак, што такая справа мае быць, вядома было даўно і некаторыя загадзя рыхтаваліся да гэтай прапановы. Не менш важным здаецца і другі фактар — грамадска-палітычнай натуры. Самаўрады з вялікай насцярожанасцю, як сабака да вожыка, паставіліся да новай ініцыятывы. Спачатку хочуць прanюхаць, чым гэта пахне і адсочыць першапраходцаў, упэўніцца ў тым, як для іх закончыцца гэтая справа, перш-наперш у фінансавым плане. Калі затым у Падляшскім ваяводстве маем амаль сто дваццаць гмін, то адважнымі аказаліся толькі дзевятнаццаць, якія і выступілі за грошы, каб дапамагчы сваім жыхарам — у тым ліку шаснаццаць гмін (Дабжынева-Вялікае, Дубічы-Царкоўныя, Гарадок, Кольна, Ломжа, Міхалова, Мельнік, Моньکі, Новыя Пекуты, Орля, Ставіскі, Сураж, Тыкоцін, Васількаў, Візна, Заблудаў), Ломжынскі і Сакольскі паветы ды самаўрад Падляшскага ваяводства — таксама як адміністрацыйныя адзінкі. Дафінансаванне пададзеных прапаноў складзе суму больш за восемсот трыццаць тысяч злотых. Такое было запатрабаванне з боку хадайнікаў. За гэтыя грошы «падляшскія самаўрады стартануць з 70 камунікацыйнымі лініямі даўжынёю ў 2,6 тысячы кіламетраў», — праінфармаваў падляшскі ваявода Багдан Пашкоўскі. Большасць маршрутаў абслугоўваць будзе суполка «ПКС Нова», уласнікам якой з'яўляецца самаўрад ваяводства.

Цешуся, што ў першым конкурсе стартанулі і нашы беларускія гміны. Аднак запатрабаванне ёсць значна большае і неадкладнае. Таму спадзяюся, што ў аб'яўленым зараз ваяводам чарговым наборы заяў прымуць удзел іншыя гміны і паветы. Да канца года да скарыстання засталося яшчэ больш за дваццаць тры мільёны злотых. Нельга тады старастам і войтам наракаць, але паасобку ці разам трэба ім пакарыстацца прапановай.

Калі я прыглядаўся прапановам першых бенефіцыянтаў, то вельмі даспадобы прыйшло мне кампліментарнае запатрабаванне Сакольскага старастава, якое ў маштабе ўсяго павета сканструявала неабходныя аўтобусныя шляхі для патрэб усіх жыхароў павета. Спадзяюся, што зараз не будуць спаць у шапку гайнаўскі, сямятыцкі ці бельскі старасты, якія па-мойму могуць разам стварыць маршруты выгадныя жыхарам, вучням, прадпрымальнікам, рабочым ці настаўнікам. Часта падарожнічаючы з Беластока ў Гайнаўку, колькі чую нараканняў на адсутнасць маршрутных аўтобусаў, напрыклад, у Нарву, дзе працуюць славутае прадпрыемства «Пронар», ці школа, да якой даязджаюць настаўнікі таксама з Беластока. Тое ж самае наглядаецца і ў іншых гмінах. З'явіўся шанц на рэальнае вырашэнне злабадзённых праблем звычайных жыхароў, а не толькі клапаціцца пра камфартабельнасць улады, якая перамяшчаецца звычайна і так на сваім прыватным ці службовым транспарце.

**Яўген ВАПА**

# Наш ліцэй

**Беларускае школьніцтва ў Гайнаўцы ў час савецкай улады (1939-1941)**

Гаворачы пра беларускае школьніцтва ў Гайнаўцы, нельга не ўспомніць той факт, што гэтае школьніцтва мела ўжо пэўныя традыцыі.

Менавіта ў 1939-1941 гг. на Беласточчыне існавала даволі шырокая сетка так званых поўных і няпоўных дзесяцігодак, у якіх беларуская мова была мовай навучання або выступала толькі як прадмет. Адносіцца гэта і да самой Гайнаўкі. Па ўспамінах старэйшых жыхароў горада, стан школьніцтва ў той час у Гайнаўцы быў наступны. Руская дзесяцігодка знаходзілася ў будынку сённяшняга Беларускага ліцэя. Беларуская дзесяцігодка была ў суседнім будынку (школа № 1). У школьным будынку на „Пляцоўцы" знаходзілася таксама польская школа. Дырэктарам рускай дзесяцігодкі быў Мікалай Рудзько, беларускай — спачатку Мечыслаў Байбор, а пазней — Семянеўскі. Польскай школай на „Пляцоўцы" кіраваў Скокаў. Патрабуе высвятлення наступны факт: найбольш шырока ў Гайнаўцы быў прыняты погляд, што беларуская дзесяцігодка знаходзілася ў будынку беларускага ліцэя, а руская — у будынку школы № 1. Такі погляд узнік на падставе механічнага спалучэння пэўных фактаў, а менавіта: калі ў гэтым будынку знаходзіцца ліцэй, то лагічным было думаць, што тут і была беларуская школа ў часы савецкай улады. Аднак на падставе інфармацыі Галіны Вілюк, якая ў той час сама была вучаніцай, а яе маці — Анастасія Буйноўская — настаўніцай рускай мовы ў рускай дзесяцігодцы, вынікае бясспрэчна, што было зусім наадварот: у будынку беларускага ліцэя была руская дзесяцігодка, а ў будынку школы № 1 — беларуская.

**Беларускае школьніцтва ў час нямецкай акупацыі**

22 чэрвеня 1941 г. гітлераўская Германія абвясціла вайну Савецкаму Саюзу. Ужо 25 чэрвеня 1941 г. у Гайнаўку ўвайшоў нямецкі батальён пяхотнай дывізіі. Так пачалася нямецкая акупацыя, якая ў Гайнаўцы працягвалася звыш трох гадоў, г.зн. да дня вызвалення 17 ліпеня 1944 г. У час нямецкай акупацыі ўсе школьныя будынкі былі заняты нямецкім войскам. У 1941/42 г. у Гайнаўцы не дзейнічала ніводная школа. Навучанне ў арганізаванай форме пачалося ў 1942/43 школьным годзе. Ініцыятарамі арганізацыі беларускай школы ў Гайнаўцы ў 1942 г. былі Надзея Мэльцэр, Тацяна Сафраненка і прадстаўнік Беларускага камітэта Федашчэня. Менавіта гэтая ініцыятыўная група і паставіла пытанне аб арганізацыі беларускай школы ў горадзе перад нямецкім бургамістрам. Нямецкія ўлады хутка далі дазвол. Восенню 1942 г. арганізуецца першая група дзяцей. Кіраўніком першай школы стаў Сцяпан Тэлешэўскі (ураджэнец, пэўна, вёскі Трывежа).

У сувязі з тым, што ў будынку на Ліпавай было мала месца, а вучняў прыбывала, школа перамяшчаецца ў прыватны будынак сям'і Сокул (пазней Мацюкі) на вуліцы Польнай (цяпер Грунвальдская). З дакументаў вынікае, што праз кароткі час дырэктарам назначаецца В. Бурак, які кіруе школай да канца 1942/43 школьнага года. З пачаткам 1943/44 школьнага года школай кіруе Васіль Бахар — арганізатар беларускай гімназіі і пачатковай школы ў Гайнаўцы ў 1944 г. Афіцыйна школа называлася: Беларуская пачатковая школа ў Гайнаўцы. Навучанне праходзіла на беларускай мове, а нямецкая мова выкладалася толькі як прадмет. Пасля заканчэння школьнага года вучні атрымлівалі пасведчанне, першая старонка якога была напісана на нямецкай мове, а другая — на беларускай. Школа праіснавала да чэрвеня 1944 года.

**Беларускае школьніцтва ў пасляваенны перыяд**

Гаворачы пра беларускае школьніцтва ў першыя пасляваенныя гады, трэба ведаць, што і гэты перыяд быў таксама даволі складаным і нялёгкім. Гэта час, калі працягваліся яшчэ ваенныя дзеянні. Летам 1944 г. былі вызвалены толькі ўсходнія рубяжы Польшчы. Зразумела, што ў першыя месяцы пасля вызвалення не магло быць спраўнай адміністрацыі, не існавалі яшчэ дзяржаўныя органы ўлады. Дастаткова ўспомніць, што цэнтральны орган улады — Польскі камітэт нацыянальнага вызвалення — быў створаны 21 ліпеня 1944 г. У адпаведнасці з законамі ваеннага часу, улада на вызваленых землях знаходзілася ў руках ваенных савецкіх камендантаў. Лагічна тое, што арганізацыя грамадскага жыцця на вызваленай ад нямецкай акупацыі тэрыторыі была нялёгкай. Нягледзячы, аднак, на складанасці часу і на розныя аб'ектыўныя і суб'ектыўныя цяжкасці і перашкоды, беларускае школьніцтва на Беласточчыне ў 1944 г. узнікла і арганізавалася даволі хутка. Найбольш пераканаўчым доказам гэтаму з'яўляюцца статыстычныя даныя. Паводле гэтых даных, ужо ў першым школьным годзе (1944/45) на Беласточчыне існавала звыш 90 пачатковых школ і 3 сярэднія (у Беластоку, Бельску-Падляшскім і Гайнаўцы). Сярод гэтых апошніх самай вялікай была школа ў Бельску-Падляшскім, бо апрача 4-гадовай гімназіі існаваў 2-гадовы ліцэй. Галоўнымі арганізатарамі беларускага школьніцтыва ў Бельску пасля вайны былі Анатоль Тымінскі і Яраслаў Кастыцэвіч. Ужо ў першы год дзейнасці ў бельскай гімназіі і ліцэі вучылася каля 280 вучняў. Другой беларускай сярэдняй школай была гімназія, вядомая пад назвай беларуска-рускай гімназіі ў Беластоку. Яе арганізатарамі, паводле ўспамінаў Уладзіміра Юзвюка („Беларускі каляндар 1994 г."), былі Дзмітрый Гаскевіч і Барыс Субоцін.

І ўрэшце, трэцяя беларуская школа была арганізавана ў Гайнаўцы. Яна складалася з пачатковых класаў і трох класаў гімназіі.

Трэба звярнуць увагу і на той факт, што афіцыйная назва пачатковай школы была без слова „беларуская" і выглядала так: Публічная пачатковая школа № 2 у Гайнаўцы. Такая назва даецца ва ўсіх дакументах таго часу. Аднак на справе школа мела абсалютна беларускі характар. Факты сведчаць, што калі гімназія дзейнічала толькі адзін школьны год (1944/45), то пачатковая школа праіснавала ў тым будынку аж да 1965 г. Пра тое, што настаўніцкі калектыў гэтай школы стойка змагаўся за яе нацыянальны характар, сведчыць справаздача ад 26 лютага 1947 г. з візітацыі беларускіх школ у Бельскім павеце (Гайнаўская павета тады яшчэ не было), якую правёў візітатар Вл. Малевіч. Варта ўспомніць гэты ахвярны педагагічны калектыў. Вось поўны яго склад у 1946/47 школьным годзе: Літвінчук Васіль, Антасюк Ціхан, Буйноўская Валянціна, Сафраненка Таццяна, Антасюк Лідзія, Мэльцэр Надзея, Стульнюк Аляксандр, айцец М. Міцэвіч.

Важны і той факт, што школа не адчувала недахопу вучняў. У 1946/47 шк. г. у сямі класах вучылася 265 вучняў, а гэта значыць, што на кожны клас прыпадала 38 вучняў.

Калі гаварыць пра гімназію, то яна прыняла афіцыйную назву з прыметнікам „беларуская" — Беларуская дзяржаўная гімназія ў Гайнаўцы. Існуюць розныя версіі адносна кіраўніцтва гімназіі: адны выказваюць погляд, што дырэктарам быў В. Бахар, другія — што Ніна Нічыпарук. А вось што аўтару гэтага артыкула расказала Надзея Мэльцэр, тая самая, якая ў Гайнаўцы арганізавала беларускую школу ў час нямецкай акупацыі, а пасля вайны працавала настаўніцай у беларускай пачатковай школе. Інфармацыя ў пераказе выглядае так:

30 верасня 1944 г. Н. Мэльцэр святкавала свае імяніны. На гэтую ўрачыстасць запрасіла настаўнікаў. Сярод іх былі Бахар, Нічыпарук, Сафраненка і іншыя. Раптам з рук Ніны Нічыпарук выпала люстэрка. Усе расцанілі гэта як дрэнны знак. Аднак ніякіх выказванняў не было. Сустрэча працягвалася. Пад канец Н. Нічыпарук сказала: „Ну вось, у хуткім часе з кветкамі ўсе прыйдзеце да мяне".




Па словах Н. Мэльцэр, гэта значыла, што наступная сяброўская сустрэча адбудзецца з нагоды афіцыйнага прызначэння Н. Нічыпарук на пасаду дырэктара гімназіі. З іншых крыніц вядома, што, сапраўды, 16 кастрычніка 1944 г. Нічыпарук выехала па службовых справах у Беласток і па дарозе загінула ў аўтамабільнай катастрофе.

З вышэйсказанага вынікае наступнае: у пачатку школьнага года (1944/45) дырэктарам пачатковай школы быў В. Бахар, а на пасаду дырэктара гімназіі была назначана Н. Нічыпарук. І фактычна яна выконвала гэтыя абавязкі, але да паловы кастрычніка не мела на гэта фармальнага дакумента. Пасля трагічнай смерці Н. Нічыпарук дырэктарам гімназіі становіцца В. Бахар, а пачатковай школай кіруе В. Літвінчук, пазней — дырэктар ліцэя (1949-1950).

Разглядаючы праблему беларускага школьніцтва ў пасляваенны перыяд, нельга не паставіць пытанне: чаму школьніцтва, якое ў 1944-1945 гадах так паспяхова арганізоўвалася, у наступных гадах (1946-1948) раптоўна пачало знікаць? Сярод розных прычын гэтай з'явы некаторыя лічаць, што знікла асноўная база ў выніку рэпатрыяцыі беларускага насельніцтва ў БССР; праявілася малая зацікаўленасць з боку бацькоў; выступілі вялікія кадравыя цяжкасці; недахоп падручнікаў, дапаможнікаў і праграм.

Будзе праўдай, калі скажам, што ніводная з гэтых прычын не магла стаць аб'ектыўнай падставай ліквідацыі беларускага школьніцтва. Тлумачэнне, напрыклад, рэпатрыяцыяй насельніцтва можна палічыць за наіўнасць па той простай прычыне, што карэнных беларусаў з Беласточчыны ў БССР выехала вельмі мала. І гэта ўладам было вядома.

Нельга не пагадзіцца і з тым, што не хапала падручнікаў, праграм. Гэта факт. Але ці магло гэта быць падставай для таго, каб беларускае школьніцтва знікла з сістэмы беластоцкай асветы? І ўрэшце, быццам бы не было зацікаўленасці з боку бацькоў. Абсалютная нелагічнасць. Значыць, у 1944 годзе, у найбольш цяжкі час, магло быць каля 90 беларускіх школ, а праз год ці два зацікаўленасць у іх знікла? Калі так, то якія ж сапраўдныя прычыны? Думаю, што стан беларускага школьніцтва залежаў ад палітычнай волі ўлад. Звернемся зноў да справаздачы візітатара Малеўскага.

Прадстаўнік асветных улад не турбуецца з'явай заняпаду беларускага школьніцтва, але непакоіцца аб тым, што гэты заняпад праходзіць марудна. У канцы справаздачы знаходзім дзевяць указанняў. У апошнім з іх сцвярджаецца, што размова з выкладчыкамі і бацькамі не матывавала мэтазгоднасці ўтрымання беларускай школы.

У такіх менавіта ўмовах адбываецца працэс ліквідацыі ў 1945 г. Беларускай дзяржаўнай гімназіі ў Гайнаўцы, а год пазней — Беларускай гімназіі і ліцэя ў Бельску-Падляшскім.

Працэс ліквідацыі адносіўся і да пачатковых школ, але часта меў іншую форму. Напрыклад, Гайнаўская пачатковая школа існавала ўвесь час, але паступова траціла свой нацыянальны характар. Яшчэ ў 1946/47 школьным годзе беларуская мова займала важнае месца ў праграме школы. Нават пратаколы пасяджэнняў педагагічнай рады пісаліся на беларускай мове. Але ўжо ў 1947/48 школьным годзе беларуская мова не выступае нават як прадмет навучання. Новы перыяд для беларускага школьніцтва пачынаецца з 1949 г. 1949/50 школьны год можна смела назваць пачаткам адраджэння гэтага школьніцтва на Беласточчыне. Сама праблема патрабуе аднак дакладнейшага аналізу. Можна меркаваць, што патрэбны імпульс ішоў ад цэнтральных палітычных улад. І сапраўды, вытокі гэтай новай палітыкі ў адносінах да нацыянальнага школьніцтва знаходзім у пастановах сакратарыята ЦК ПАРП ад 28 чэрвеня 1949 г. Гэтыя пастановы і сталі падставай для дзейнасці адміністрацыйных улад. І вынікаў не трэба было доўга чакаць. Ужо ў канцы 1949/50 школьнага года працавала каля 50 беларускіх школ, а сярод іх дзве сярэднія (у Бельску і Гайнаўцы).

Такім чынам, 1 верасня 1949 г. пачынаецца гісторыя Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы. Паколькі ліцэй спалучаецца з пачатковай школай, школе надаецца назва — Пачатковая школа і Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы. 29 жніўня 1965 г. адбылося нечарговае пасяджэнне педсавета школы з удзелам інспектара Міхала Сабешука, на якім была прынята пастанова аб аддзяленні пачатковай школы ад ліцэя. 1 верасня 1966 г. ліцэй прымае назву — Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы.

**Аляксандр ІВАНЮК**



## Маладзёжны кліматычны пратэст

У пятніцу, 20 верасня 2019 года, праходзіў сусветны кліматычны пратэст моладзі. У акцыі ўдзельнічалі маладыя людзі з амаль 150 краін свету. Агульны пратэст меў звярнуць увагу сусветных правадыроў і патрабаваў прадухіліць кліматычную катастрофу. Не патрэба шукаць далёка доказаў, што паслядоўнасці дзейнасці чалавека непасрэдна ўплываюць на перамены ў прыродзе. Няхай кожны з нас гляне на сябе і пачне парадкі на сваім панадворку. Колькі смецця вывозім у лес, выкідаем у прыдарожныя равы, пакідаем па сабе ў месцах адпачынку на ўлонні натуры! Страшна падумаць! А колькі пажараў узнікае вясною ў час неразважлівага выпальвання сенажаці! Не толькі руйнуем структуру глебы, але знішчаем гнёзды птушак, у якіх водзяцца птушаняты, малыя звяркі. Ці падумалі мы аб гэтым, пакуль зрабілі зламысны ўчынак? А спальванне адпадаў ці смецця ў печках, лісця ў час веснавых парадкаў? Ці гэтым не атручваем асяроддзе ды саміх сябе? Варта над тым задумацца, даражэнькія, калі хочам яшчэ пажыць. Бо здароўе, гэта наш скарб. Ці ж не так?

**Уладзімір СІДАРУК**

## Асеннія зёлкі

Пункт скупкі лячэбных зёлак гайнаўскай суполкі з абмежаванай адказнасцю „Руно" у Баб'яй Гары Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета працуе 35 гадоў. Вядзе яго Яніна Зубрыцкая. Зёлкі збіраюць і прыносяць жыхары перш-наперш Семенякоўшчыны, Семяноўкі, Баравых і Баб'яй Гары.

Сёлетнія цэны за кілаграм сушанага зелля наступныя: лебяды белай (komosy białej) — 8 зл., сумніку (nawłoci) — 6 зл., спірэі (tawuły) — 3 зл., крапівы — 2,50 зл., выпрачкі (poziemki) — 6 зл., пальну — 4 зл., сярэбраніку (srebrnika) — 12 зл.

Цяпер за кілаграм сушанага зелля брушніцы плацяць 6 зл., крапівы — 8,40 зл., за карэнне спірэі — 10 зл. і жывакосту — 6 зл., а за карэнішча пырніку — 4 зл. **(яц)**

## Нарэшце адрамантавалі

На пясчанай пляцоўцы перад прадуктовай крамай у вёсцы Плянта Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета былі яміны, у якіх пасля ападкаў стаялі глыбокія лужы. З-за іх цяжка было дабрацца ў краму сухой нагою. Каляіны рабілі лёгкія аўтамабілі, якімі прывозілі прадукты ды грузавыя фуры, вадзіцелі якіх тут на асветленай пляцоўцы затрымліваліся на начлег. І так праходзілі год за годам. Старшыня нараўчанскай ГС не пастаралася. Быў я з гэтай справай у бюро ГС як радны з Новага Ляўкова і нічога не атрымалася, ніякага зруху, нуль зацікаўленасці.

Справай заняўся войт Нараўчанскай гміны Яраслаў Галубоўскі. Папрасіла яго прадаўшчыца Бажэна Несцярук. Зараз пляцоўка перад плянтаўскай крамай роўная і можна па ёй прайсці сухою нагой. **(яц)**

# Забітыя прысады

Гэтую старадаўнюю прысаду Нараўка — Альхоўка выразалі ў 2017 годзе. Быццам бы мяшала яна жыхарам, бо можна было б аўтамашынай урэзацца ў любое дрэва. А яны вялікія, тоўстыя, старыя, засланяюць від на дарогу. Можа і дуплаватыя. Зрэжаш — пабачыш, ці тая таполя або ліпа сапраўды дуплаватая і небяспечная...



Фота Міры ЛУКШЫ

Рэканструяваць «Трапінцы» яе на ўдалося, хаця былі падрыхтаваны саджанцы для пасадкі і людзі гатовыя да працы. Пачалася інвентарызацыя кожнага дрэва, што расце ў прысадзе, абучэнне, як гэтым правільна заняцца.

У суботу 28 верасня інвентарызацыі алеі Нараўка — Альхоўка — працяг. Вы можаце прачытаць пра сапсаваную спробу рэканструяваць выразаную частку ў рамках грамадзянскай кампаніі і гісторыю намаганняў «Трапінкі» і яе сяброў па захаванні той часткі алеі, якая захавалася да гэтага часу: http://www.tropinka.org/rekonstrukcja-alei-narewka-olchowk.../ Запланавалі ўбачыць алею ад таго, дзе скончылі першую частку інвентарызацыі з дэндролагам Якубам Даляtoўскім. Аднак выправілі планы — каб больш уважліва пагледзець на дрэвы, якія былі нядаўна адабраны для высечкі... Так, вочы не ўводзяць у зман — наступная частка алеі павінна знікнуць... Дырэктар управы па дарогах у Гайнаўцы Мікалай Яноўскі пастулюе высяканне ўсіх таполяў у рэгіёне (у той час як пытанне пра пасадкі на зрэзанай частцы алеі, якую павінна зрабіць управа, застаецца без адказу) — і сапраўды яшчэ ў жніўні не толькі на гэтай алеі, але і на многіх іншых дарогах у Гайнаўскім павеце было жахліва шмат дрэў — у асноўным таполяў, але не толькі. Чаму — гэтага ніхто не ведае. Шматлікія дрэвы таксама прызначаны для высечкі на ўчастку праспекта, асабліва ліпы (http://www.tropinka.org/szkolenie-inwentaryzacja-alei/). Пад наглядам спецыялістаў з Інстытута дрэў са 162 дрэў валанцёры ўбачылі толькі тры неабходныя для іх выдалення. Агульная ацэнка кошту алеі, на якой падпісаўся м.інш. Марыюш Крыніцкі, абвяшчае: на ёй растуць дрэвы, разліковая працягласць жыцця якіх перавышае 40 гадоў, «якія маюць асаблівую візуальную каштоўнасць і ролю ў ландшафце» і дрэвы з арыенціровачнай працягласцю жыцця не менш за 20 гадоў, якія маюць прыроднае і ландшафтнае значэнне. Гэта алея, якую варта абараніць, адна з нямногіх дарог з прыдарожнымі дрэвамі ў гміне Нараўка.

Менавіта таму трапінкаўцы засяродзіліся ў асноўным на дрэвах, адзначаных для высечкі. Вынікі іх праверак будуць апублікаваны разам з кароткім дакладам са жнівеньскай інвентарызацыі ды накіраваны да ўласніка алеі і ў Нараўчанскую гміну.

Нядаўна разам з амаль сарака арганізатарамі і прамотарамі турызму на Падляшшы падпісалі «Ліст аб ахове прыдарожных і сяродпалявых дрэў». Турыстычная галіна сур'ёзна ўспрымае прыдарожную высечку ў прылеглых муніцыпалітэтах і знікненне насаджэнняў дрэў сярод палёў як збядненне ландшафту і зніжэнне турыстычнай прывабнасці рэгіёна.

«Трапінка» дзякуе за падтрымку праф. Еве Лэнтоўскай, Віктару Кабацу, Еве Сядлецкай, Еве Звяжынскай, Адаму Шышкоўскаму, Рафалу Кавальчыку, Сільвіі Хутнік, Кшыштафу Гедройцю, Моніцы Платэк, Іры Дэк, Юстыне Чахоўскай, Мажэне Сухоцкай, Пятру Тышко-Хмеляўцу, Касперу Кэчыньскаму, Сары Сапёлцы, Давіду Козару, Малгосі Сіманюк, Еве Наталлі Мароз-Кечыньскай, Ані Мароз, Барбары Бірыцкай, Барбары Мазур, Катажыне Данілка, Ані Бяляўскай і Міры Лукшы. «Нам усё яшчэ патрэбна ваша дапамога!!!!» — звяртаюцца да грамадскасці трапінкаўцы. На здымках відаць пранумараваныя дрэвы ў Нараўчанскай гміне — на алеі Нараўка — Альхоўка і на дарозе ў Семяноўку. **(лук)**

# У Пасеках — давайце рабіць сваё!

Трапінкаўцы дзейнічаюць! У Дварку Русо ў Свінароях каля Нараўкі група сяброў Пушчы, аматараў прыроды і энтузіястаў міжкультурнага Падляшша, жыхароў Нараўкі і яе ваколіц, гасцей з усяго рэгіёна і розных частак Польшчы і Еўропы стварылі «Трапінку — Асацыяцыю дзеля дыялогу». Хочуць яны садзейнічаць міжкультурнасці Падляшша, спрыяць развіццю гэтага незвычайнага рэгіёна, раздумваць над яго феноменам і ствараць прастору для сустрэч і дыскусій пра ўсё, што ім здаецца важным. Запрашаюць усіх да падтрымкі сваіх дзеянняў. 19 снежня 2015 года згуртаванне завяршыла ўсе фармальнасці і «Трапінка» была зарэгістраваная. Людзі згуртаваныя вакол сталі працаваць афіцыйна і запрасілі ўсіх прыхільнікаў уступаць у асацыяцыю. Згуртаванне зарэгістраванае ў сталіцы Нараўчанскай гміны, але ёсць сярод іх людзі з усёй Польшчы і іншых краін. Дні, калі збіраюцца трапінкаўцы, вельмі багатыя. Інвентарызуюць старыя сады або асобныя дрэвы, ратуюць цэлыя алеі, арганізуюць мерапрыемствы ў Свінароях, датычныя культуры розных народаў, фэст «Паэзія ў Пушчы»...



www.tropinka.org



Фота Міры ЛУКШЫ

Першая акцыя з серыі # RÓBMYSWOJE, праведзеная ў супрацоўніцтве з Нараўчанскай гмінай і Домам на Рыкавіску, адбылася 12 верасня 2019 года ў вёсцы Пасекі. Ёсць там сажалка, якая калісьці была супрацьпажарная, а ў памяці жыхароў «шматфункцыянальная», бо гэта быў, між іншым, вадапой для кароў і дзікіх жывёл, басейн, лядовы каток. А побач з сажалкай жыў бусел, таму вадаём і луг вакол яго былі таксама сталоўкай для буслінай сям'і. Сёлета буслы ў родныя Пасекі не прыляцелі, можа, загінулі дзесьці ад кулі, бо бывае, што пралятаюць яны над ваеннымі абшарамі, а ў некаторых краінах палююць на вяртаючыхся з выраю ці лятучых у выраі буслоў. А, можа, таму кінулі роднае гняздо, што амаль ніхто больш не косіць лугоў, што на былых палях з'явіліся монакультуры, што канадская залатая розга штораз смялей уваходзіць на аблогі, выцясняючы ўсе іншыя расліны, ствараючы непралазны гушчар, у якім буслы (і не толькі яны) не могуць здабыць ежы.

«Трапінкаўцы» пастукалі ў дзверы кожнага дома — дзякуючы гэтаму ведалі, што жыхары Пасек сумуюць па буслах, баяцца, што пасля сажалкі застанецца толькі памяць, што яны засмучаныя бачаннем лугоў без кветак і траў, якія ператварыліся ў жоўтае мора залатой розгі. «Трапінка» звярнулася па дапамогу ва Управу гміны. І атрымалі яе, за што вельмі дзякуюць.

У чацвер, 12 верасня, Пасекі былі гатовыя да бою: прыехаў муніцыпальны экскаватар і касілка, прыйшлі практычна ўсе жыхары, у тым ліку і пенсіянеры! Разам ачысцілі вадаём — парадай служыў спецыяліст па земнаводных «трапінкавіч» Ларс Брыгс. Усе касілі луг вакол вадаёма, жыхары жвава граблі скошаную траву і зелле. За накрытым сталом не было канца ўспамінам пра купанне ў сажалцы, смак рыбы злоўленай там, аб кераце, які служыў дзецям за бегавую дарожку-карусель, пра каня, які ў кампаніі дзвюх коз выбіраўся па яблыкі да суседзяў, пра бусла, што стукаў дзюбай у зашклёныя вокны, аб суседскіх бяседах. Былі песні, жарты, планы на будучыню...

— Мы хочам касіць луг вакол вадаёма на наступныя тры гады некалькі разоў на год, — кажа Катажына Ляшчынская, на якую ў Пасеках кажуць проста Каця. — Будзем думаць, ці можна было б скасіць больш навакольных лугоў, паспрабуем ачысціць буслянку, на якой ужо выраслі дрэвы, і вясной мы зноў сустрэнемся ля сажалкі!

**(лук)**

# Усё можа змяніцца, але часу не зменіш

*Пра аўтарскія песні Генадзя Шэмета — размаўляе Юрка Буйнюк.*

**Юрка Буйнюк: — Не ведаю чаму, але «Грамада» асацыюецца мне з песняй «Не плач Ізабэла». Ці, пішучы песню, у Вашым сэрцы была нейкая Ізабэла? Гэта адна з многіх Вашых аўтарскіх песень. Раскажыце як яна ўзнікла.**

**Генадзь Шэмет:** — Песня паўстала ў Беластоку на вуліцы Юравецкай. Прыйшлі дзяўчаты на наш прамацыйны канцэрт, які быў на тамашнім стадыёне. Тады вакол стадыёна працаваў базар, стаялі крамы. У кліпе да песні «Стара баба» на канале YouTube захаваліся тадышнія здымкі з Юравецкай. Там дзяўчаты хадзілі і адна з іх была Ізабэла. Я ёй кажу: «Я напішу песню». Па-мойму дзяўчына была з Супраслі. Песня паўстала восенню 1991 года, пасля «Басовішча», а ў 1992 годзе песня была гатовая. Першы раз мы яе выканалі 25 сакавіка 1993 года акурат на Дзень Незалежнасці БНР у тэатры імя Якуба Коласа ў Віцебску. На YouTube захаваўся канцэртны запіс гэтай песні.

**— На вокладцы касеты з песняй «Не плач Ізабэла» красуецца скупа апранутая дзяўчына...**

— Каб касета лепш прадавалася, яе беластоцкі выдавец рашыў змясціць дзяўчыну на вокладцы. Я вачам не паверыў, што на касеце такая карцінка.

**— У песні «Мозыр — гарадок» спяваеце пра родны горад. Як успамінаеце сваё дзяцінства і маладосць у Мазыры? Якой тады была Беларусь?**

— Я пра Беларусь расказваць не буду, але Мазыр запамятаўся мне як горад на гарах. Ідзеш там то з гары, то пад гару. Там пачыналі мы іграць і спяваць на імпрэзах, святкаваннях і вяселлях. Я тады займаўся фальклорам, збіраў вершы, песні. Людзі на вяселлі, калі вып'юць кілішак, расказвалі цікавыя вершы, спявалі песні. Мы запісвалі і з гуртом апрацоўвалі. Можа тады я быў трошкі спакайнейшы, не было той цывілізацыі як цяпер. Мазыр, то Мазыр, гэта Палескі край.

**— У 1997 годзе фірма Green Star выпускае касету «Грамада». Я да гэтай пары захоўваю яе ў сваёй калекцыі. Запамяталася мне народная песня «Карыта». Вы часта карысталіся беларускімі ці падляшскімі фальклорнымі песнямі?**

— «Карыта» я запісаў у 1984 годзе на Палессі, у вёсцы Натачаеўка. Здаецца, што пасля Чарнобыльскай аварыі жыхароў гэтай вёскі выселілі. Песня ўпала мне ў душу і я рашыў апрацаваць яе. Калі я прыехаў сюды і выдаў касету з песняй «Карыта», мне здавалася, што на Падляшшы ніхто яе не ведае. Аднак аказалася, што і тут яе спяваюць. Толькі тэкст крышку іншы. Культурныя межы — бязмежныя. Мне вельмі прыемна, што гэтая песня папулярная і мае пазітыўны водгук у людзей.

**— Міраслаў Кавальскі сказаў мне, што Вы напісалі «Яблыньку». Гэта любімая беларуская песня маёй мамы. Як узнікла гэтая песня?**

— Яшчэ ў 1980-1990 гадах мы як гурт «Грамада» ездзілі па вёсках на провады прызыўнікоў у армію. Хлопцаў адпраўлялі ў войска на машыне. Тады самаход убіралі ў бярозавае вецце і маладых хлопцаў везлі ў ваенкамат. Пазней тыя хлопцы, для якіх мы ігралі провады ў войска, жаніліся і жылі ў Беластоку. І тады паявілася ідэя напісаць песню.

**— «Яблынька» гэта Ваша аўтарская касета. Ёсць на ёй песня «Час» на словы Аркадзя Леўшука, якая прагучала ў рэпартажы пра гэтага паэта. Як яго ўспамінаеце?**

— Царства Яму Нябеснае! Аркадзь Леўшук з Ціванюкоў — вельмі таленавіты чалавек. Мы спатыкаемся з яго сынам Міркам. Шкада, што Аркадзь Леўшук такой шырокай дарогі не меў. Увогуле Гарадоцкая зямля багатая на таленты. Ёсць штосьці ў свеце, што адны землі даюць паэтаў, пісьменнікаў, другія — музыкаў, кампазітараў, трэцця — выканаўцаў, чацвёртыя — інжынераў, пятыя — навукоўцаў і так далей. З Аркадзем прыемна было працаваць. Песню «У суботу Янка грошы атрымаў» гэта перароблeная песня «Ручнікі». Калі пры Савецкім Саюзе нас, студэнтаў, у верасні выслалі збіраць бульбу на вёску, там, на Віцебшчыне, я першы раз пачуў песню са словамі «У суботу Янка грошы атрымаў, / Едучы дадому ён дружка спаткаў». Пазней я высветліў, што яе напісаў Аркадзь Леўшук. Аказваецца, што ў яго тэксце не было Янкі, толькі Рыбка: «У суботу Рыбка грошы атрымаў». Рыбка гэта мянушка чалавека з Ціванюкоў ці Бандароў. Песня хутка стала народнай.


Фота Міры ЛУКШЫ

**— І гэтая песня была папулярная на Беларусі?**

— Так. Самае цікавае, што тэкст Аркадзя Леўшука я ўпершыню пачуў і запісаў на Віцебшчыне. Адзін хлопец кажа, што ведае песню «У суботу Янка грошы атрымаў». Усе ведаюць музыку Пятроўскага, які жыў на Полаччыне і напісаў музыку да верша Веры Вярбы «Ручнікі». Вельмі я быў здзіўлены, калі пазнаў аўтара Аркадзя Леўшука. Ён калісьці друкаваўся ў «Ніве».

**— Я памятаю тэлерэпартаж пра Аркадзя Леўшука з песняй «Час» у Вашым выкананні.**

— Вельмі добры тэкст. Глыбокі сэнс у ім: усё можа змяніцца: і палітыка, і ўсё, але часу не зменіш. Хутка жыццё праляціць і не паспееш вокам маргнуць. Так Аркадзь Леўшук піша ў сваім тэксце.

**— Вы напісалі музыку да песні «Навальніца ў Палічнай» на словы Міры Лукшы. Як узнікла песня? Ці Вы былі ў вёсцы Палічная?**

— Я тудою праязджаў. Тое, што Міра напісала ў тэксце песні, фактычна навеянае канцэртамі «Грамады» на Беласточчыне. Мы выступалі ў Беластоку, пазней падумалі з'ездзіць у Аўгустова. Мы едзем, а тут «малюх» нас апярэджвае. Тады мы на «ладзе» ехалі з апаратурай. Затрымлівае іх паліцыянт, быццам хтосьці яго прыслаў спыніць, каб мы далей не ехалі. Затым пайшла праверка нашай аўтамашыны, страхоўкі, тэхпашпарта і г.д. Пасля мы расказалі аб той паліцыі, а Мірка напісала тэкст. Яна падсумавала тое, што рабілася на мяжы. Тады на пагранпераходах па трое сутак стаялі ў чарзе, каб перасячы мяжу. Вось Мірка напісала тэкст, да якога я напісаў музыку, а «Грамада» запісала гэтую песню.

**— Песня была вельмі папулярнай. У 1990-х гадах у эфіры Радыё Беласток часта гучала ў перадачы «Пад знакам Пагоні».**

— Па-мойму яна была ў пятым ці шостым альбоме «Грамады». Мы тады вучыліся, што на рынку пойдзе, а што не пойдзе. Хутка прыйшло тое, што мы ігралі прамацыйныя канцэрты, прымеркаваныя да выхаду чарговых касет. У Міры Лукшы ў хаце па вуліцы Вясёлай мы запісвалі пяты і шосты альбомы. Там паўсталі файныя кампазіцыі, у тым ліку і «Навальніца ў Палічнай». Міра пісала тэксты, а я — музыку. Адразу было і выкананне. Вельмі творчая атмасфера тады была.

**— У адной песні спяваеце пра трактар з Нарвы.**

— Я працаваў у фірме «Пронар». Хтосьці сказаў, што трактар гэта ўсё жыццё і так паявілася песня. Пазней і кліп паўстаў. Аднойчы я паехаў на кулігі. Да трактара прычапілі бервяно і на ім вазілі ўсіх нас. Тады я першы раз спяваў гэтую песню людзям. Мы сталі размаўляць, каб запісаць яе на відэакамеру. У студзені паехалі мы ў Сураж да Паплаўскага і там знялі кліп. Калі ўставілі яго на YouTube, малады чалавек, якому падабалася «disco polo», раскрытыкаваў нас. Гэта яго справа.

**— Але людзі ў каментарыях пад кліпам наогул вельмі сімпатычна ставяцца да песні «Traktor» і кліпа.**

— Калі я яе спяваў у Белавежы, дык людзі гаварылі: «Чуецца, што гэта ўсходняя нотка». Можа таму, што меладызм такі не «discopolowy».

**— Існуе беларуская версія песні пра трактар з «Пронару»...**

— Я напісаў беларускі тэкст. Ён недзе там ёсць, ляжыць яшчэ. Спынілася на тым, што астаўся толькі тэкст. З мовамі так ёсць, што часам пра тыя ж самыя праблемы адна песня гучыць лепей па-польску, іншая — па-беларуску. Напрыклад, песня «Беласток» па-польску чамусьці не ідзе, не пішацца па-польску. Хаця былі негатыўныя каментарыі: «А чаму не па-польску?» Па-беларуску штосьці дыктавала з неба. Я папрасіў Віктара Шведа перастлумачыць «Беласток», і калі ён перастлумачыў на польскую мову, дык штосьці не тое было. Кожнае слова ёсць на вагу золата. Гэта ёсць і творчасць.

Гутарыў **Юрка БУЙНЮК**

## Найпрыгажэйшыя сядзібы

Сёлета падчас гміннага дажынкавага свята ў Нараўцы Гайнаўскага павета былі ўручаны дыпломы і грашовыя ўзнагароды пераможцам гміннага конкурсу „Найпрыгажэйшыя сялянскія сядзібы ў 2019 годзе ў Нарачанскай гміне”.

У катэгорыі „прыхатні кветкавы агародчык і панадворак” першае месца заняла Ірэна Бірыцкая, другое Івона Скепка — абедзве яны з Семяноўкі, а трэцяе Зіна і Яўген Рэенты са Скупава. Вылучэнне ў гэтай катэгорыі атрымала Івона Копэрэк са Скупава.

У катэгорыі „сядзіба” ўзнагароды атрымалі Таіса Драўноўская з Міклашэва (першае месца), Кася Бельская з Тарнопаля (другое месца) ды Юлія і Анатоль Матысюкі з Семяноўкі (трэцяе месца).

У катэгорыі „агратурыстычныя дамы і панадворкі” першае месца заваявала Валянціна Германюк са Скупава. **(яц)**

## Прыдарожныя дрэвы засыхаюць

Зараз па ваяводскай дарозе № 687 з Навасадаў у Юшкаў Груд цераз Нараўку ездзіць многа легкавушак і грузавікоў. Яшчэ 5-6 гадоў таму паабапал яе расло шмат дрэў, пераважна ліставых — тапаляў, бяроз, ліп, клёнаў, вольх, вязаў, ясеняў, рабін. Сустракаліся тамсям і дубы. Цяпер яны стаяць сухія.

Чаму? Мае знаёмыя кажуць, што вінаватыя суша, сухія леты, мала снегу зімой. І значна панізіўся ўзровень грунтавых вод. Іншыя мае суразмоўцы прычыну бачаць у чымсьці другім — у забруджаным выхлапнымі газамі паветры. Дрэвы засыхаюць таксама ад хвароб і па старасці. Я ведаю, што некалькі гадоў таму нейкія насякомыя, так бы мовіць, спляжылі вязы і не было ад іх паратунку. Быў я тады на адным з мазурскіх азёр і там было тое самае.

Прыдарожныя сухастоіны трэба ссячы. Многа іх ля адрэзка дарогі № 687, між іншым, на тэрыторыі салэцтва Новае Ляўкова. Павінна гэтым заняцца Падляшскае праўленне ваяводскіх дарог у Беластоку. **(яц)**

## Небяспечная павятовая дарога

Павятовая дарога ў вёсцы Плянта Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета зноў стала небяспечнай. Паламаць рысоры ў аўтамашыне можна на ўхабінах у асфальтавай маставой дарогі, якая бяжыць паралельна з чыгункай з Гайнаўкі ў Семяноўку. Вадзіцелі аўтамашын асабліва ўважайце, калі будзеце праязджаць каля месца скупкі металалому. Тут асфальт вырваны ажно да бруку, на якім ляжыць. Папераджальнага дарожнага знака няма. А шкада. Вось едзеш, дарога роўная а тут нечакана і непажадана — бабах!

За стан дарогі адказнае Праўленне павятовых дарог у Гайнаўцы. Туды накіроўваем нашу крытыку. Небяспечныя выбоіны неабходна „залатаць”. Чым хутчэй, тым лепш. Зараз для такіх прац маем спрыяльнае надвор'е. **(яц)**

## Лавачкі ў Нараўцы

Многа гадоў на вуліцах гэтага гміннага цэнтра не было ўжо лавачак. А зараз ёсць. Пра іх паклапаціліся гмінныя ўлады. Лавачак сем. Прыгожыя драўляныя, са спінкай, карычневага колеру. На лавачках можна пасядзець на вуліцах Белавежскай, Міцкевіча, Новай і пры скрыжаванні вуліц Гайнаўскай і Міцкевіча, а таксама пры галерэі імя Тамары Саланевіч, школе, гмінным асяродку сацыяльнай дапамогі і амбулаторыі. **(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі


# Дарослыя нас не разумеюць!









Калі пратэстуюць дзеці — гэта незразумела, трывожна.

— За 15 гадоў усе можам памерці, — кажа Марыся Скаўронская, — трэба ратаваць жыццё! Не за год-два — а сёння, зараз. Інакш у нас няма мараў, няма прышласці. Усе загінем пад гурбай смецця...

Марыся — вучаніца пятага класа Пачатковай школы «Лясны пушчык» у Асовічах. На Кліматычны страйк, які адбыўся 21 верасня пад беластоцкай ратушай, з'явілася з сябрамі, настаўнікамі. Група з Асовіч, наймалодшая ўзростам, вылучалася не толькі мадэрнай стылізацыяй, адвагай і рашучасцю.

— У нашай школе ўсе разумеюць, наколькі важная ахова прыроды, — кажа Марыся, — многа пра гэта гаворым. На жаль, не ўсе дарослыя нас разумеюць. Кожны дзень прыбывае смецця ў акіянах, на зямлі і ў паветры. Трэба гэта абмежаваць, спыніць.

Сярод маладзёвага эка-пікету сустракаю нашых ліцэістак Аню Карнілюк і Клаўдзію Галінскую. Аня — арганізатар і актывістка Кліматычнага руху.

— Нас сёння многа, — кажа Аня, — і з кожным днём нас усё больш і больш. Няма часу чакаць. Калі зараз мы не скажам: стоп, то чакае нас катастрофа. Я кожны дзень адчуваю страх. Людзі не бачаць, што свет гіне на нашых вачах! Чаму пра гэта не гавораць у школе?

Аня ведае як важны асабісты прыклад. Ведае, што гаварыць пра шкоднасць прамысловай гадоўлі жывёл на мяса брыдка пры тоўстай катлетцы.

— Я сама ад двух гадоў не спажываю мяса, — кажа беластоцкая ліцэістка, — і ўсе пакупкі раблю ў сэкенд-хэндах. Многія мае сябры трымаюць такі стыль. Гэта дае нам сілу, адвагу і пачуццё свабоды.

— Чаму пратэстуе адна моладзь? — задумваецца іншая актывістка, Магда. — Бо мы карыстаемся англійскай мовай і інтэрнэтам, разумеем, што адбываецца ў свеце. Нашы настаўнікі гэтым не цікавяцца. Яны не разумеюць нашага страху. Чаму іх няма сёння з намі?

— А чаму так мала тут хлапцоў? — пытаю. Дзевяноста адсоткаў дэманстрантаў складае прыгожы пол, інтэлігентныя дзяўчаты.

— Не ведаю чаму так ёсць, — кажа Аня. — У нас, у Беластоку, на паўсотні актывістаў толькі чатырох хлапцоў. Можа калі нас пачнуць слухаць дарослыя, яны таксама далучацца. Таму хочам, каб пачулі нас палітыкі і прадпрымальнікі, якія рэальна могуць паўплываць на эмісію $CO_2$ у паветра.

20 верасня Кліматычны страйк адбыўся на ўсіх кантынентах, уключна з Антарктыдай. У Польшчы пратэставала ажно 71 гарадоў.

— Сёння нас у дзесяць разоў больш, чым было год таму, — кажуць з надзеяй мае субяседніцы.

Маладзёвы кліматычны страйк прыдумала шведская вучаніца Грэта Тунберг. За тры гады кліматычны рух стаў глабальнай з'явай. Якраз, калі пішам гэтыя словы, у Нью-Йорку праходзіць саміт ААН, прысвечаны кліматычным зменам — зразумела, з удзелам моладзі. На нашых вачах мяняецца не толькі клімат, але і выспявае новае, міжнароднае эка-грамадства. Вось частку сваіх лозунгаў і прыпевак беластоцкая моладзь агучыла па-англійску.

А нам прыемна, што ў гэтай каларытнай кампаніі мы змаглі пагаварыць па-беларуску!

**Фота і тэкст: Ганны Кандрацюк**

## УВАГА КОНКУРС! № 39-19

Разгадайце загадку-пытанне з жартам. Адказ можа быць розны, аднак дасціпны і на тэму. Рашэнні дашліце ў „Зорку" да 13 кастрычніка 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Маленькі сабачка**
**не брэша,**
**не кусае**
**і ў хату не пускае.**
**З....**

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 35: яблык.**
**Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі Магда Якубюк і Дам'ян Карнілюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# Пчаліны рай

Ужо ў старажытныя часы беларусы гадавалі і разводзілі пчол. Усё пачалося з дзікага пчалярства. Мы часам бачым у фільмах, як мядзведзь лезе на дрэва, каб дабрацца да дзікага мёду. Ён выбірае адной лапай мядок з дупла, а другой адганяецца ад пчол. Пчолкі бароняць свой дом, балюча джаляць мішку. А той не адступае. Ён гатовы пацярпець, каб толькі лізнуць салодзенькі мядок...

Людзі прыдумалі больш бяспечны спосаб. Яны з дапамогай дыму і агню адганялі пчол, пераносілі раі ў борці і кантралявалі працэс накаплення мёду. Першыя вулеі напаміналі дрэвы, яны былі выдзеўбаны ў тоўстых калодах. Пчалярства лічылі сакрэтным заняткам, таму пчаляроў часта лічылі чарадзеямі, якія ведаюць свае заклццці і абрады.

Бортніцтва было развітае на тэрыторыі і ўскраінах Белавежскай пушчы. Некаторыя вёскі як Кутавая, Цімохі ці Пасечнікі спецыялізаваліся ў вытворчасці мёду. Дзеля вышэйшых вынікаў бортнікі абсявалі лугі і лясныя «выхады» меданоснымі раслінамі. Цягам вякоў шмат перамянілася, дзейнічаюць новыя тэхналогіі. Толькі на прыпушчанскіх лугах засталіся расліны, пасеяныя старажытнымі бортнікамі-пасечнікамі. Іх пах і прыгожасць напамінае, што быў у нас пчаліны рай.

**(гак)**

*Малюнак на аснове выцінанкі «Пчаліны рай» аўтарства В. Паўлюніс.*

## Размалюйце



Сільвія ГРЫКА
Міхалова

## Беласток

Прыгожы горад Беласток,
Тут знойдзеш усё,
Тут музей, кіно, тэатр,
Тут лаўкі ў парку.
Тут прыгожы пейзаж маем,
Палац Браніцкіх добра знаем,
І рэчку Белую маем.
Горад з цэннымі помнікамі,
Касцёламі, цэрквамі,
Дамы тут і камяніцы,
Новыя вуліцы.
Багацце тут вялікае,
Фаўна і флора прыхільныя,
Прыгожая гэтая краіна,
Тут прыемна і міла.

## Польска-беларуская крыжаванка № 39-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 35-2019:** Балада, мо, акт, арляк, сон, яна, Ала, апытальнік, яна, Ака, ночы. Лязо, Аня, малпа, бор, лятун, ліяна, калач, Аксана, Толік, наказ.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Дам'ян Карнілюк** і **Магда Якубюк** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Słoma makowa | | Fakt / Królik | | | | |
| | Głusz / As | Grab | Mat / Sad | | | | Esej | | Zakątek / Zdanie | |
| | | Sekret / Koń | | | | | | | Zmiana / Jacek | |
| | Kaktus / Młot | | | | | | | Jan | | |
| Moda | | | | | Serce | | | | | |
| | | | Ton / Wiąz | | Car | | | | | Pozew |
| Lwica | | | | | | | As | | | |
| | | Ona | | | | | | Jaki | | |
| Bierz | | Zarośnik | | | | | | | | |

# IV Культурныя спатканні «Студзіводы Сегяневічаў»

У Музеі малой айчыны ў Студзіводах 14 верасня паспяхова прайшлі святкаванні прадмесця — IV Культурныя спатканні «Студзіводы Сегяневічаў», якія былі наладжаны ў рамках Еўрапейскіх дзён спадчыны. На панадворку Музея малой айчыны ў Студзіводах адбылося адкрыццё і асвячэнне барэльефа «Студзіводская панарама». Цікава запрэктаваў панараму старшыня музейнага аб'яднання Дарафей Фіёнік, а па-майстэрску выканаў мастак Анатоль Туркоў з Камянца. Перад сабранымі выступіў прафесар Антон Мірановіч з Універсітэта ў Беластоку са змястоўным дакладам пра род Сегяневічаў. Дарафей Фіёнік расказаў пра нядаўна створаную гістарычна-адукацыйную выставу «Эміліян Адамюк і Юзаф Такажэвіч — сыны аднаго месца і часу», якая экспанавалася на вонкавай сцяне вясковай хаты музея. Роланд Клос з Аўстрыі цікава распавёў пра свайго продка, вядомага афтальмолага прафесара Эміліяна Адамюка з Універсітэта ў Казані і паказаў сямейныя памяткі. У час канцэрта займальна выступілі музычныя калектывы «Зараніца», «Таўкачыкі», «Магдаліна» і «Журавіны» з Кобрына.

Восеньскія культурныя сустрэчы «Студзіводы Сегяневічаў» пачаліся ў мяшчанскай хаце Студзіводскага музея са спаткання з Роландам Клосам з Аўстрыі, які чарговы раз прыехаў у Студзіводы, дзе 180 гадоў таму нарадзіўся ягоны продак, вялікі спецыяліст у галіне афтальмалогіі прафесар Эміліян Адамюк, выкладчык Універсітэта ў Казані. Дарафей Фіёнік прывітаў сабраных, сярод якіх былі сваякі прафесара Адамюка. Госць з Аўстрыі распавёў і паказаў памяткі па сваім продку, між іншым шыльду лекарскага кабінета прафесара Адамюка.

— Мой продак Эміліян Адамюк першапачаткова стаў вучыцца ва Універсітэце ў Казані на факультэце філасофіі. Перайсці вучыцца на медыцынскае аддзяленне хіба падштурхнула тое, што навучанне філасофіі спалучанае было з грэчаскай мовай, а раней вучыўся ён латыні. Здабыўшы вышэйшую медыцынскую адукацыю ў Казані мой прапрапрадзед стаў займацца навуковай працай у галіне афтальмалогіі і адначасна лячыў людзей. Не браў ён платы за лекарскія паслугі ад бедных асоб і сваіх сяброў, — расказваў нашчадак прафесара Роланд Клос.

У красавіку гэтага года ў якасці спецыяльнага госця прымаў ён удзел у навуковай афтальмалагічнай канферэнцыі ў Медыцынскім універсітэце ў Казані, у якой прыняло ўдзел звыш пяцісот лекараў і навукоўцаў. Падчас канферэнцыі ўніверсітэт ушанаваў памяць прафесара Эміліяна Адамюка, свайго выкладчыка, аўтара многіх адкрыццяў у галіне медыцыны. Там Роланд Клос разам з сястрой Барбарай паказалі здымкі і іншыя памяткі па прафесары Адамюку, частка з якіх паходзіць з асабістага архіва Уладзіміра Адамюка з Масквы. Прыехаў Роланд Клос разам з жонкай Эвай, ураджэнкай Польшчы, якая тлумачыла з нямецкай на польскую мову мужавы выказванні. Раней сужонства Клос наведалі Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім, спаткаліся з дырэктарам школы Андрэем Сцепанюком. Бургамістр Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі ў час спаткання з Роландам Клосам паведаміў, што зараз рыхтуецца праект пастановы аб прысваенні завулку каля Прачысценскай царквы ў Бельску імя прафесара Эміліяна Адамюка.

Адкрыццё і асвячэнне барэльефа «Студзіводская панарама» — гістарычна-мастацкай выявы Студзіводаў, адбылося на музейным панадворку з удзелам шматлікіх жыхароў Бельска. Малітвы і чын асвячэння барэльефа здзейснілі протаіерэй Славамір Ярацэвіч і протаіерэй Аляксей Курыловіч.

— На цэнтральным месцы вялікай панарамы відаць сімвалічную гістарычную карту Студзіводаў Сегяневічаў XVI стагоддзя. На ёй бачны гандлёвыя шляхі, што праходзілі праз Бельск і спалучалі Студзіводы з гаспадарчымі і культурнымі цэнтрамі Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. На меншых частках гэтай вялікай працы знаходзяцца выявы ўладальніка Студзіводаў XVIII стагоддзя Фелікса Траяноўскага і сусветнай вядомасці акуліста Эміліяна Адамюка. Дзве чарговыя постаці гэта мая бабуля і дзядуля, Анастасія і Павел Кандрацюкі, у якіх доме працуе наш музей. Па гэтай прычыне іх можна назваць заснавальнікамі Музея малой айчыны ў Студзіводах, — расказаў пра «Студзіводскую панараму» ініцыятар яе выканання і аўтар праекта Дарафей Фіёнік.





На панараме бачны выявы іншых персанажаў — епіскапа Іоны, ігумена Пафнуція Сегеня, мучаніка Антонія Супрасльскага, які таксама мог быць выхадцам са Студзіводаў, і Васілія Сегяневіча. Барэльеф па-майстэрску выканаў вядомы беларускі мастак Анатоль Туркоў з Камянца.

— Чатыры бакавыя часткі «Студзіводскай панарамы» я выконваў дома, дзе меў больш часу, каб дэталёва выразаць гістарычныя постаці. Карыстаўся я таксама імпрэгнатамі, якія дазволілі больш падрабязна паказаць дэталі твараў на выявах. Гістарычную карту Студзіводаў і наваколля, з гандлёвымі шляхамі і гістарычнымі мясцовасцямі Падляшша, я вырэзваў тут, на месцы. Я панараму выконваў амаль каля двух гадоў, у вольным часе паміж іншымі заняткамі. Пачаў я работу з выканання выявы Бельскай іконы Божай Маці. Змешчана яна на барэльефе над «Студзіводскай панарамай», на ручніку, які трымаюць два анёлы. Я разьбярыў у старым дубе, што ўскладняла работу. Вельмі добра атрымліваецца манументальная разьба ў дубе, а выкананне дэталяў у старым дубе вельмі складанае, але затое такая скульптура вельмі трывалая, — расказаў пра сваю работу Анатоль Туркоў, старшыня Грамадскага аб'яднання аматараў мастацтваў рэгіёна «Белавежская пушча» і Брэстчыны «Тур», якое супрацоўнічае са Студзіводскім музеем. — Я выканаў таксама частку постацей, якія знаходзяцца на тэрыторыі музея і прэзентуюцца ў Раманоўцы. У Парку каралевы Галены ў Бельску-Падляшскім знаходзіцца мая скульптура, прысвечаная 450-годдзю Сойму Вялікага Княства Літоўскага, які адбыўся ў Бельску-Падляшскім. Я прымаў удзел у многіх пленэрах, арганізаваных Студзіводскім музеем і іншымі арганізацыямі ў Польшчы, дзе знаходзіцца больш за сто маіх разных прац.

Цікавым выступленнем на фоне «Студзіводскай панарамы», распаложанай у цэнтральным месцы музейнага панадворка, быў змястоўны даклад «Студзіводы Сегяневічаў» прафесара Антона Мірановіча з Універсітэта ў Беластоку. Быў ён прысвечаны поспехам роду Сегяневічаў, якіх дабіліся яго прадстаўнікі і вялікаму значэнню гэтага роду для Падляшша, Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай.

— Іван Сегяневіч — прадстаўнік аднаго з найбольш вядомых родаў Падляшша XVI стагоддзя. У 1514 годзе ад караля Жыгімонта I атрымаў ён ва ўладанне Студзіводы. Род Сегяневічаў стаў вельмі багатым і мог раўняцца з магнацкімі родамі ў Польшчы. Уладзімірска-Брэсцкімі епіскапамі былі Васьян, Іона і Пафнуцій Сегяневічы. Апошні раней быў ігуменам Супрасльскага манастыра. Не дайшоў бы род Сегяневічаў тады да вялікай палітычнай і эканамічнай пазіцыі без вялікай падтрымкі. Мабыць, была яна ад каралевы Галены, — сказаў прафесар Антон Мірановіч, які адшуквае штораз новыя інфармацыі пра род Сегяневічаў у Літоўскіх хроніках.

Дарафей Фіёнік удакладніў, што зверху панарамы Студзіводаў знаходзіцца выява Бельскай іконы Божай Маці, якую падарыла ў Прачысценскую царкву менавіта каралева Галена. Протаіерэй Славамір Ярацэвіч пахваліў Дарафея Фіёніка за тое, што аддаў дзейнасць свайго музея пад апеку Божай Маці. Пры канцы святкаванняў адбылося адкрыццё гістарычна-адукацыйнай выставы «Эміліян Адамюк і Юзаф Такажэвіч — сыны аднаго месца і часу».

— Эміліян Адамюк і Юзаф Такажэвіч былі школьнымі сябрамі перыяду вучобы ў Бельску і ў гімназіі ў Беластоку, а пазней іх дарогі разышліся. Пра Эміліяна Адамюка, які нарадзіўся якраз 180 гадоў таму і здабываў вышэйшую адукацыю ў Казані, мы сёння многа сказалі. Юзаф Такажэвіч, псеўданім «Годі», які памёр якраз сто гадоў таму і якому прымеркаваная частка выставы, пазней вучыўся ва Універсітэце ў Маскве. З часам стаў вядомым пісьменнікам і публіцыстам, аўтарам звыш тысячы артыкулаў, рэцэнзій і навуковых прац.



■ Роланд Клос з Аўстрыі на фоне выставы «Эміліян Адамюк і Юзаф Такажэвіч — сыны аднаго месца і часу»

Мы ў навейшым 59 нумары «Бельскага гостінця» змяшчаем тэкст прафесара Васіля Белаказовіча аб Юзафе Такажэвічы, які ў 1963 годзе быў апублікаваны ў «Ніве». Не страціў ён каштоўнасць і лічыцца аднай з самых лепшых біяграфічных распрацовак аб Юзафе Такажэвічы. Публікуем таксама частку аповесці Юзафа Такажэвіча «Пан сляпы-Павел» як прыклад літаратуры высокага ўзроўню. Прадоўжым публікацыю гэтай аповесці ў наступным нумары «Бельскага гостінця», — патлумачыў Дарафей Фіёнік.

У час канцэрта на завяршэнне святкаванняў у Студзіводах сабраных захапілі музычныя калектывы з Кобрына — «Зараніца», «Таўкачыкі», «Магдаліна» і «Журавіны», што супрацоўнічаюць з Бельскім домам культуры, якога дырэктар Альжбета Фіёнік прымала ўдзел у студзіводскіх урачыстасцях. Прадстаўнікі калектываў у падзяцы за супрацоўніцтва ўручылі спечаныя ў Кобрыне караваі Дарафею Фіёніку, прафесару Антону Мірановічу і Роланду Клосу. У святкаванні прынялі ўдзел таксама члены бельскага гуртка Польскага саюза невідушчых і слабавідушчых, якія былі запрошаны на сустрэчу з нагоды ўшанавання сусветнай вядомасці афтальмолага Эміліяна Адамюка.

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**

# НАШЫ карэспандэнты



# Нашы „дзядзькі”

**Вечарам 21 верасня, у святочны дзень Нараджэння Святой Багародзіцы, узяла мяне настальгія. Можа таму, што вяртаючыся з царквы я ўспомніў 21 верасня 2005 года, калі быў я на Прачысту ў Бельску-Падляшскім. Тады таксама ішоў дождж, а я ў Прачысценскай царкве пачуў пропаведзь на беларускай мове, якую гаварыў сам архіепіскап Сіман. Як прыемна было пачуць пропаведзь не па-польску — як сёння ў царкве ў Беластоку — але менавіта на беларускай мове. Гэты ўспамін ажывіў ува мне настальгію па гэтым часе, які непазбежна бяжыць і пра гэта менавіта напішу.**

Чытаю «Ніву» штотыдзень і найбольш цешаць мяне артыкулы, якія выйшлі з-пад пяра Уладзіміра Сідарука, Яна Целушэцкага і Мікалая Панфілюка. Іх я называю — толькі не крыўдуйце — „нашымі «дзядзькамі»”, таму што лічу іх сваімі, блізкімі асобамі, якія „вітаюцца” і яднаюцца ў нашай «Ніве», дзе час ад часу і я друкуюся. Вельмі цешуся, што вярнуўся пісаць у «Ніву» мой зямляк Міхал Мінцэвіч, які шмат працы ўкладае ў свае тэксты, што публікуюцца ў «Ніве». Асабліва цешыць мяне, што ў «Ніву» вярнуўся Мікалай Панфілюк. Чакаю ад яго новых вершаў і жадаю яму моцнага здароўя. Дубіцкая зямля — родная зямля маёй пакойнай бабулі Марыі Буйнюк, у дзявоцтве Самасюк, якая нарадзілася ў Чахах-Арлянскіх. Калі жыў яшчэ брат маёй бабулі, дзед Уладзімір, дык мы вельмі часта наведвалі Чахі-Арлянскія, едучы менавіта праз родныя спадару Панфілюку Дубічы. Хаця бабулі ўжо адзінаццаць гадоў няма ў жывых, яе голас запісаны на магнітафонных касетах вечна жывы. Час ад часу ў беларускай электроннай бібліятэцы kamunikat.org гартаю старыя нумары «Нівы». У 1990-х гадах у «Ніве» была рубрыка «Парнасік», дзе свае вершы друкавалі Мікалай Панфілюк, Мікалай Лук'янюк, Марыя Пень і іншыя. Ідэя гэтай рубрыкі была цудоўная, таму што вершы тых асоб былі вельмі натуральнымі, шчырымі і пісанымі проста ад сэрца, ад родных іх старонак. Паводле мяне найбольшыя літаратурныя таленты нараджаюцца не ў гарадах, але на нашых родных вёсках Падляшша. Сапраўдныя паэты там не толькі нараджаюцца, але і жывуць усё сваё жыццё. Паводле мяне, самы шчаслівы чалавек гэта той, які ўсё жыццё звязаны з месцам, у якім нарадзіўся і вырас, пра якое піша з любоўю і шчырасцю і гэта менавіта знаходжу ў тэкстах Мікалая Лук'янюка, Уладзіміра Сідарука ці Янкі Целушэцкага. Нейкі час таму я наведаў вядомага беларускага кампазітара Генадзя Шэмета і ён пытаў ці яшчэ ў «Ніву» пішуць Уладзімір Сідарук, Мікола Лук'янюк і Янка Целушэцкі і хацеў усім ім перадаць прывітанне. Са спадаром Генадзем успомнілі мы асобу іншага вельмі цікавага „ніўскага дзядзькі” — Аркадзя Леўшука, які таксама пісаў у «Ніву». Генадзь Шэмет на верш «Час» аўтарства Аркадзя Леўшука паклаў музыку і паўстала вельмі прыгожая песня. Пару гадоў назад я пазнаёміўся з унукам Аркадзя Леўшука — Ігарам. Гэты малады добразычлівы хлопец падарыў мне дыск з фільмам пра свайго слаўнага дзеда, а я яму адксерыў са зборнічка «Сваякі» усе вершы яго продка. Песня «Час» прагучала менавіта пад канец фільма «Ужо з комінаў не снуецца дым касматы». Ігар Леўшук таксама вельмі разумны хлопец і вельмі паважае свайго дзеда, якога рукапісы вершаў трымае да гэтай пары. Вельмі прыемна было выпадкова сустрэцца на працы, дзе Ігар працуе шафёрам. Калісьці я ў рэдакцыі «Нівы» купіў калектыўны зборнік вершаў ніўскіх карэспандэнтаў, з вершамі менавіта Аркадзя Леўшука, Цёткі Мальвіны, Дзядзькі Кваса. Колькі ж душэўнасці і прыгажосці ў паэзіі людзей, якія нарадзіліся і ўсё жыццё пражылі ў сваёй роднай вёсцы ці ў мястэчку. Хачу сказаць, што даўняе Падляшша памірае не таму, што нейкі там чалец Літаратурнага аб'яднання памёр, але менавіта тады, калі памірае народны паэт.



Вельмі мяне засмуціла смерць Мікалая Лук'янюка. Гэта я яго зборнік «З нараўскага боку» пару гадоў таму атрымаў у рэдакцыі «Нівы». Я вельмі добра ўспамінаю пакойнага спадара Лук'янюка. Ад часу да часу ў 1990-я гады я яго бачыў у Бельску-Падляшскім і тады пытаў:

— Як там, пішаце ў «Ніву»?

— А пішу. Час ад часу ганарарчык атрымліваю.

Не стала Мікалая Лук'янюка і ў «Ніве» стала неяк сумна. Калісьці з Мікалаем Лук'янюком і Мікалаем Панфілюком мы прымалі ўдзел у Агульнапольскім конкурсе беларускай паэзіі і прозы «Дэбют».

Таксама вельмі добра ўспамінаю Вольгу Анацік, якая вершы пісала на падляшскай гаворцы. У 2001 годзе падарыла яна мне свой зборнік, які падпісала словамі:

*Вспомынайтэ мэнэ добрымі словамі,*
*То я я буду разом з вамы.*

На вершы пакойнай спадарыні Вольгі Анацік калісьці гурт «Хлопцы-рыбалоўцы» спяваў свае песні. Памятаю як пяць гадоў таму пасля нашага вяселля (мая жонка з Рыбалаў) жончын сусед з сябрамі над ракой Нарвай зрабіў вогнішча і з аўтамашыны пусціў касету «Хлопцаўрыбалоўцаў» з песнямі на словы Вольгі Анацік. У гэты жнівеньскі вечар прыемна было паслухаць песні на падляшскай прыродзе. Я і да гэтай пары вельмі паважаю творчасць гурта «Хлопцы-рыбалоўцы» і шкада, што зараз гэты гурт не існуе.

Шчырыя, добрыя людзі паміраюць, адыходзяць ад нас, але застаецца іх след — вершы ў «Ніве», у «Парнасіку». Вельмі часта класікі сучаснай літаратуры — Адам Міцкевіч, Ян Баршчэўскі, Аляксандр Пушкін, Сяргей Ясенін, Іван Мележ, Хальдаўр Кільян Лакснес, Франс Эміль Сіланпя, Тругве Гульбрансен — чэрпалі сваё натхненне менавіта з вершаў і песень народных паэтаў, такіх як і нашы ніўскія паэты, аўтары рубрыкі «Парнасік». Я нават хацеў пісаць магістарскую працу менавіта пра нашых народных паэтаў з Падляшша, а не далёкага нам Стральцова...

Я задаволены, што ў «Ніве» надалей можна чытаць допісы асаблівых людзей, без якіх «Ніва» не была б такой цікавай. Хаця наша роднае Падляшша пусцее, дык яшчэ жывуць апошнія сведкі нашай гісторыі і трэба іх выслухаць і запісаць. Апошнім часам, едучы на аўтобусе з Бельска ў Беласток, сустрэў я настаўніцу з бельскай школы Марыю Федарук з Рыбалаў, якая мне расказала пра свайго пакойнага бацьку Лявона, які пастаянна выпісваў і чытаў «Ніву». Спадар Лявон вельмі часта выйграваў кніжныя ўзнагароды за рашэнне крыжаванкі ў «Ніве». Ён, на жаль, у траўні гэтага года памёр. Сям'я спадарыні Марыі вельмі паважае кнігі і беларускае слова і да гэтай пары ў яе сям'і чытаюць «Ніву».

Час ад часу піша мне мой зямляк, сябра Марк Грайко з Пашкоўшчыны, які часта ўзгадвае пра самага слаўнага аднавяскоўца паэта Уладзіміра Сасну. У Пашкоўшчыне жыў таксама другі народны паэт, дарэчы, брат вядомага беларускага паэта Віктара Шведа — Андрэй Грайко, пра якога спадар Швед піша ў сваёй аўтабіяграфічнай кнізе «З Мора ў горад».

Я вельмі задаволены, калі ад ніўскіх карэспандэнтаў даведваюся, што адбываецца на вёсках нашага роднага Падляшша. Іх артыкулы дадаюць «Ніве» своеасаблівага каларыту. Спадарам-карэспандэнтам — Уладзіміру, Янку і Мікалаю — жадаю моцнага здароўя, і каб як заўсёды, мелі сілу пісаць у «Ніву» пра свае родныя старонкі. Дай Бог усім вам, а таксама галоўнаму рэдактару і ўсім журналістам «Нівы» моцнага здароўя. Пішыце, пішыце, пішыце і не крыўдуйце за маё акрэсленне «нашы дзядзькі», таму што я таксама ніякі пан, паколькі паходжу з гэтых жа маіх дзядзькоў, дзядоў, якія аралі, сеялі, касілі нашу родную падляшскую зямельку і ганаруся тым, што я — просты вясковы хлопец, а не гарадскі пан.

Юрка БУЙНЮК

# Кузаўскі ўспамін (3)

Рэчышча Нурца парастала багавінне, у якім вадзілася рыба. Пры сонечным надвор'і шчупачкі выходзілі пад бераг і выграваліся на сонцы. Гэта быў самы зручны момант для рыбакоў, якія лавілі рыбу на «пэтлю» і «осці». У хмурныя дні рыба скрывалася ў густой водарасці і на глыбейшай вадзе пад навесамі парастаючай на берагу алешыны. Кузаўскія аматары рыбалкі карысталіся «кломляй» (трохвугольны від сеткі) і «калышкамі» плеценымі з ветак вербалозу або гібкіх каранёў ядлоўцу. Пад драўняным мастком, на дарозе з сяла на чыгуначную станцыю, вадзіліся хмары невялічкіх келбікаў (печкуроў), якія служылі вудзільшчыкам за прынаду ў час рыбалкі на ставе пры вадакачцы. Дзецюкі лавілі келбікаў кошыкамі. Рэчка чым далей працякала, дык пашыралася і ставала глыбейшай. У ямках пад навесамі алешыны вадзілася больш рыбы. Аднойчы мы з малодшым братухай, Віктарам, рашылі пакаштаваць смажанай рыбкі. Там, дзе рэчышча было не надта шырокае ды глыбокае, мы з двух бакоў зрабілі запору з дзірвану, а ваду з-пад навеса вылівалі вядзерцам. Шмат часу прайшло, пакуль вычарпалі ваду, але здабыча была вялікая — адзінаццаць шчупачкоў. Пасля вайны ў мяжуючых з рэчкай варонках з-пад бомб насупраць паравознага дэпо вадзіліся карасі. Гэтыя шэра-залацістыя рыбкі хаваліся ў замуленых водах і былі смачнай здабычай для рыбакоў. Лапалі іх кломляй і калышкай. Апрача шчупакоў у Нурцы вадзіліся мянькі, плоці, акуні і ракі. У невялікай колькасці трапляліся пад Рэпчычамі, найбольш за Кляшчэлямі на сенажацях ва ўрочышчы Пухава. Лапалі ракаў уручную ў норках, але найбольш «на жабу» ў месячныя ночы. Жывыя ракі чорнага колеру пасля гатавання мянялі колер на чырвоны. Найбольшае смакоцце змяшчалася ў кляшчах і ў галаве. За Кляшчэлямі на Пухаве ракаў было процьма. Кузаўцы прывозілі іх мяшочкамі. Кузава ў пасляваенны час лічылася сялом, якога асноўнай крыніцай прыбытку была гаспадарка. Толькі шчаслівічыкам удавалася аформіцца на працу ў чыгуначнай Чаромсе. І то па блаце або за хабар, які каштаваў... цялятка. У Кузаве толькі аднаму пашчасцілася — Яну Рэпку. Стаў ён пуцявым майстрам і лічыўся «фігурай» у коле чыгуначнага начальства. Бацька наш працаваў у тэлефоннай сувязі, якая займалася наглядам лініі ад Чаромхі па Ваўкавыск. Зямля ў Кузаве была ненайлепшай якасці, таму поле засявалі ў асноўным жытам, аўсом, ячменем і грэчкай. Садзілі бульбу і вырошчвалі агародніну. Кузаўцам нездарма прышпілілі мянушку «грэчкасеяў», бо на пясчаным полі найбольш сеялі грэчкі. Прыпамінаю прымаўку настаўніка рускай мовы Мікіты Карповіча з Хлевішчаў, які навучаў у Чаромсе ў пяцідзясятых гадах. Вучню з Кузавы, які не навучыўся ўрокаў, казаў: «Не вывучыў урока, дык пастаў Богу свечку, бярыся за цэп і малаці грэчку». Са школьных гадоў запамятаўся мне 1952 год, паколькі спалучаўся ён з адной важнейшай падзеяй — электрыфікацыяй сяла. Я тады вучыўся ў пятым класе...

(працяг будзе)

Уладзімір СІДАРУК

# З „Нівай” еду ў вёскі

Кожны з чытачоў знайшоў сабе нешта адпаведнае для прачытання. У кожнай „Ніве” друкуюцца цікавыя рэпартажы, артыкулы, фельетоны, доследы і допісы, крыжаванка, гараскоп ды шмат фотаздымкаў. Заўсёды цікавыя артыкулы на актуальныя тэмы. Многія чытачы любяць чытаць успаміны, запісы. Тыя, што пішуць паэзію, прачытаюць новыя вершы.




Варта не забываць, што „Ніва” — ваш найлепшы прыяцель. Між іншым, дзякуючы ёй мы, беларусы, не забываем сваёй роднай мовы. На ёй складаем вершы і песні, між іншым, пра прыгожую і любімую нашу краіну-радзіму і пра нашы шчаслівыя гады жыцця на роднай зямлі ў міры і сярод родных. Яна гуртуе вакол сябе дарослых і дзяцей. Яны ўваходзяць быццам у адну вялікую дружную сям'ю. Пашыраюцца знаёмствы і новыя кантакты. Лягчэй жыць, калі ёсць падтрымка знаёмых добразычлівых людзей штодзень.

Многія чытачы звязаны з „Нівай” ад пачатку яе існавання. Старэйшыя адыходзяць ад нас, паміраюць, але ім на замену прыходзяць маладыя. Вельмі добра, што наша беларуская газета ёсць. Яна падтрымлівае нашу беларускую духоўнасць, нашу беларускую свядомасць. Дзякуючы ёй мы больш ведаем пра сябе ды пра далёкіх і блізкіх нам людзей. Яна дапамагае нам жыць. Дык не забывайма яе. Беларускі штотыднёвік трэба купляць і чытаць. Я заахвочваю да гэтага.

Калі толькі маю вольны час, я еду з „Нівай” да тых жыхароў вёсак, якія чытаюць наш родны часопіс. Наведваю 6-7 а то і больш сёл Нараўчанскай гміны. Здабываю новых чытачоў. Цяжка мне пагадзіцца з тым, калі змяншаецца лік чытачоў па прычыне хваробы — ад інсульту або інфаркту — ці смерці. Зараз у вёсках пахаванні частыя. Сёлета „Ніву” давёз я для трыццаці чытачоў. Чаму не больш? Лячыў вочы. Але ўжо ўсё добра. Магу ездзіць на веласіпедзе і пакрысе пісаць допісы ў родную газету.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ




Цяжка ўявіць сучаснае ды і не толькі сучаснае грамадства без музейнай справы. Музеі — гэта захавальнікі імгненняў мінуўшчыны, які часцяком выпадаюць з чалавечай памяці, але якія можна вярнуць у якасці прылад, дакументаў, фотаздымкаў. Чалавецтва ўжо даўно зразумела, што проста стварыць музей гэта замала, трэба яшчэ зрабіць так, каб музеі ўмела раскрывалі перад наведвальнікамі тыя экспанаты, якія яны захоўваюць. Гэтаму дапамагае абмен досведам, напрыклад, паміж музеямі адной краіны. І сайт, які акумулюе такія веды, у дадзеным выпадку будзе зусім не залішнім.

У беларускай краіне ёсць як дзяржаўныя, так і прыватныя музеі. Першыя фінансуюцца з дзяржбюджэту і маюць агульны сайт, які распавядае пра некаторыя з іх. Такі сайт месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://museum.by** і мае назву „Музеі Беларусі”.

З інфармацыі на галоўнай старонцы мы можам даведацца, што сёлета „Музеям Беларусі” споўнілася акурат дзесяць гадоў. „Дзесяць год назад, у 2009 годзе, быў запушчаны партал „Музеі Беларусі” (www.museum.by). Мы распрацавалі гэты праект, каб даць кожнаму музею, незалежна ад яго профілю, падначалення ці размяшчэння, магчымасць прадставіць сваю дзейнасць у інтэрнэце. Мы імкнуліся аб'яднаць прафесійную музейную супольнасць краіны ў рабоце над прэзентацыяй разнастайнасці культурнай спадчыны Беларусі. За гэтыя гады партал стаў зручнай пляцоўкай для зносін музейшчыкаў і наведвальнікаў, музеяў і турысцкіх арганізацый, для пошуку аднадумцаў”, — адзначаецца ў тэксце, прысвечаным юбілею.

Паводле тамтэйшых звестак, за прайшоўшыя гады на сайце з'явіліся новыя раздзелы, модулі і сэрвісы. Сёння «Музеі Беларусі» аб'ядноўваюць 154 дзяржаўныя музеі, прычым 87 з іх вядуць свае сайты на дадзеным партале. У гонар дзесяцігоддзя сайт цалкам абнавіў інтэрфейс. І калі параўнаць з папярэднім, то сапраўды можна пабачыць як палепшаны выгляд, так і больш цікавую навігацыю і функцыянал.

Сайт „Музеі Беларусі” мае тры моўныя версіі — рускую, беларускую і англійскую. Праўда, інфармацыі на апошняй значна менш, чым на дзвюх папярэдніх. У беларускай версіі шмат інфармацыі падаецца па-руску. З гэтага можна зрабіць выснову, што перакладчыцкай працай для сайта асабліва займацца няма каму.

Калі зазірнуць у рубрыку „Навіны”, то з прыемнасцю можна адзначыць — паведамленні абнаўляюцца рэгулярна і апошнія з іх былі апублікаваны ўжо ў жніўні. Актуальная інфармацыя месціцца і ў рубрыцы „Афіша”, дзе можна пабачыць анонсы бліжэйшых імпрэз, якія будуць праходзіць у тым ці іншым музеі.

Сярод іншых вартых увагі рубрык, дарэчы, не шматлікіх, можна адзначыць „Сайт музея на museum.by”. Выйсце на яго знаходзіцца ў правым верхнім вугле цэлага выяўлення на чорнай палосцы. „Партал «Музеі Беларусі» (museum.by) запрашае музеі Беларусі да супрацоўніцтва! Мы прапануем вам магчымасць стварэння ўласнага сайта вашага музея на партале Museum.by, дзе вы зможаце размяшчаць актуальную інфармацыю, падтрымліваць зносіны з пастаяннымі і прывабліваць новых наведвальнікаў”, — распавядаецца там. Гэтае супрацоўніцтва, паводле пададзенай інфармацыі, зусім бясплатнае для музеяў. „Галоўная ўмова супрацоўніцтва з намі — адказна ставіцца да напаўнення сайта зместам і падтрымліваць інфармацыю ў актуальным стане”, — адзначаюць „Музеі Беларусі”.

Аляксандр ЯКІМЮК



Дата з календара

## 110 гадоў з дня нараджэння

# Лукаша Калюгі

Беларускі літаратар, перакладчык Лукаш Калюга (сапраўднае прозвішча Канстанцін Вашына) нарадзіўся 27 верасня 1909 г. у вёсцы Скварцы Мінскага павета (цяперашні Дзяржынскі раён). Паходзіў з сялянскай сям'і. Быў яшчэ немаўляткам, калі памерла маці, так што гадавала яго незамужняя бацькава сястра. Калі ж пасля памёр бацька, то ў прымы да цёткі прыйшоў брат Кастусёвай памерлай маці.

Яшчэ ў школе Кастусь захапляўся вельмі пашыранай у 1920-я гады краязнаўчай працай, запісваў народныя песні і іншыя фальклорныя творы сваёй мясцовасці, асабліва словы і звароты народнае мовы. Сабраныя матэрыялы адсылаў у Мінск у Інбелкульт, дзе яны атрымалі высокую ацэнку як лепшыя з прысланых. У 1925 годзе скончыў Станькаўскую сямігодку. У 1926 г. паступіў у Магілёўскі педагагічны тэхнікум, але вучыцца не стаў, вярнуўся дадому. З 1928 г. — студэнт мінскага Беларускага педагагічнага тэхнікума. Адначасна з вучобай рэдагаваў і перакладаў розныя тэксты для Белдзяржвыдавецтва, шмат пісаў. З траўня 1929 г. — сябра літаратурнага аб'яднання „Узвышша”.

Дэбютаваў у друку апавяданнем „Вясна”, якое Кузьма Чорны ў чэрвені 1927 года змясціў у часопісе „Чырвоны сейбіт”. Кузьма Чорны так характарызаваў маладога творцу: „Богам дадзены талент”. Псеўданім Лукаш Калюга, верагодна, узяты ад вёскі, што ва Уздзенскім раёне Мінскай вобласці. У 1928 годзе часопіс „Узвышша” змясціў аповесць „Ні госць, ні гаспадар”, пасля якой пісьменніка-пачаткоўца прыкмеціў Максім Гарэцкі. У 1929 г. часопіс „Узвышша” надрукаваў шэраг апавяданняў Лукаша Калюгі. У часопісе „Полымя” за 1931 год надрукавана першая частка аповесці „Нядоля Заблоцкіх” — „Прыгоды і летуценні”. Пераклаў аповесць Пятра Панча „Блакітныя эшалоны” (разам з К. Чорным, 1930 г.), раман Юрыя Алешы „Зайздрасць” (1931), раман Яраслава Гашака „Прыгоды ўдалага ваякі Швейка” (1932).

У 1931 г. Лукаш Калюга выключаны з тэхнікума як „узвышанскі лазутчык і пачынаючы нацдэм”. Са студзеня і да сярэдзіны 1932 г. працаваў сакратаром часопіса „Кніга массам”, які выдаваўся пры Белдзяржвыдавецтве, потым стыльрэдактарам у Навукова-даследчым інстытуце прамысловасці Вышэйшага савета народнай гаспадаркі (да канца 1932 г.), на Беларускім радыё.

Арыштаваны Кастусь Вашына савецкімі карнымі органамі 24 лютага 1933 г. у Мінску. Як „член контррэвалюцыйнай нацдэмаўскай арганізацыі” засуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 4 лістапада 1933 г. да пяці гадоў савецкага канцлагера. Гэтая рэпрэсія была заменена ссылкай на 5 гадоў. Этапаваны на Урал, адбываў ссылку ў Ірбіце (цяпер Краснаярскі край, Расія). У ссылцы яшчэ працягваў пісаць; частка рукапісаў той пары захавалася (у іх ліку незавершаны раман „Пустадомкі”, апублікаваны ў 1990 г.; аповесці „Дзе косці мелюць”, „Зоры Вам Вядомага горада”, „Утрапенне”, апублікаваны ў 1989 г.). У 1974 г. выйшаў зборнік апавяданняў і аповесцей „Ні госць, ні гаспадар”. У 1992 г. у серыі „Спадчына” быў выдадзены том твораў.

Зноў арыштавалі пісьменніка 6 лістапада 1935 г., паўторна засудзілі 22 лютага 1936 г. да пяці гадоў пазбаўлення волі. Расстраляны НКВД 5 кастрычніка 1937 г. паводле прысуду Чалябінскага суда. Дакладную дату смерці, якая шмат дзе падаецца памылкова, высветліў беларускі даследчык сталінскага генацыду Леанід Маракоў. Рэабілітаваны Вашына судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага Суда БССР у 1956 г.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Уборка бульбы

Субота, 21 верасня. Праваслаўныя адзначаюць Прачысту. У сваім дзённіку раблю занатоўкі аб надвор'і: «Хмурны дзень. Вецер слабы і памяркоўны, заходні. Пералётны дождж. Тэмпература + 12 градусаў». Такое надвор'е трымаецца ўжо пяць дзён. З майго назірання за прыродай і з занатовак у дзённіку атрымліваецца, што перад Прачыстай амаль штогод паўтараецца халоднае і дажджавое надвор'е. У мінулым старажылы называлі гэты час „жыдоўскімі кучкамі” (яўрэйскім святам, калі абавязкова павінны быць дажджы).

У гаспадарцы верасень — час сяўбы. Усё з поля прыбрана, акуратна захаваны запас на зіму ў свірнах і стадолах. Земляробы зараз раней спраўляюцца з работай, таму што карыстаюцца тэхнікай. Чалавека выручаюць машыны: касілкі, камбайны, бульбакапалкі. Даўней усё рабілі ўручную. А самай цяжкай і карпатлівай з падыходам восені работай была ўборка бульбы. Сяляне намагаліся закончыць уборку бульбы да Прачыстай, пакуль надыдзе халоднае і дажджавое надвор'е, час „жыдоўскіх кучак”. Прыпамінаецца мне абразок з Дубяжына, калі ў цесця капалі бульбу „на пераддомі”. Выворваў ён запрэжкай у пару коней бульбу. Следам за аратым падавалася цешча. Сагнутая, на каленях збірала ў кошык бульбу. Пранізлівы ветрык студзіў, зрошаны дожджыкам яе плечы. Запэцканую бульбу збірала яна з паверхні загона дзе рукамі, дзе матыкай. Зямля ў Дубяжыне была ўраджайная, чарназёмная. Так крок па кроку падавалася наперад. У абедні час абое спажывалі прыхаванае ў торбачцы харчаванне: лусту сала з квашаным агурочкам, кусок свойскай каўбаскі або варанага кумпяка, а на закуску піражнае папівалі малаком са збанка. А калі дзень канчаўся, на адвячорку, забіралі пастаўленыя ў радок мяшкі з бульбай на фурманку і падаваліся дамоў. Так канчаўся асенні працадзень селяніна пры ўборцы бульбы.

**Уладзімір СІДАРУК**






## У пасецы

Пастаянны чытач „Нівы” Канстанцін Ярашук з вёскі Новіны Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета шмат гадоў вядзе пасеку. Сёлета павялічыў яе на сем вуллёў.

Фота Янкі Целушэцкага

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — народную пагаворку.

1. яе сарока-варона дзеткам варыла = 6 _ 8 _ 1 _ 2 _ 3 _;
2. запісаныя ўспаміны = 17 _ 16 _ 24 _ 25 _ 18 _ 7 _ 10 _;
3. пасеяная трава або прасеяная мука = 9 _ 19 _ 14 _ 15 _ 12 _ 13 _;
4. паказальны выраб у... сузор'і = 23 _ 22 _ 21 _ 20 _;
5. ежа = 11 _ 4 _ 5 _.

(ш)

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| | | 11 | 12 | 13 | 14 |
| 15 | 16 | | 17 | 18 | 19 |
| 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 35 нумара**
Вярба, Зан, заяц, кій, луб, музей, Пац, Туск, шыя, юр, яд.
Рашэнне: **Найцвярдзейшыя кускі трапляюць бяззубаму**.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714
**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# 29.09 — 05.10

**(22.03. — 20.04.)** Удача табе спрыяе. Павысіцца пазіцыя на працы і ў сям'і, а кампанейскае жыццё будзе квітнець. 1-3.10. высвятліш справу, якая даўно не давала табе спакою. Не будзеш наракаць на нуду. На працы змагайся за сваё, можаш разлічваць на лаяльных супрацоўнікаў. Здарова карміся.

**(21.04. — 21.05.)** Лёс кіне табе не адзін выклік, але пры невялікім высілку дасі рады перашкодам. Больш абавязкаў, але не забудзь пра прыемнасці. Зацікавяць цябе чужыя справы і сакрэты. На працы абавязкова паафармляй адкладзеныя справы, бо пасля можа не хапіць табе часу. Кастрычнік вельмі спрыяе табе ў фінансах. Прытулі сабаку!

**(22.05. — 22.06.)** Засяродзься на найважнейшым, бо ўсяго не агорнеш. Абмінуць цябе сардэчныя расчараванні. Дасі рады з жыццёвымі перашкодамі і будзеш мець шматлікія нагоды. Прафесійныя справы трымай пакуль у сакрэце. Зважай на тое, што ясі.

**(23.06. — 23.07.)** З 4.10 (да 8.10.) — не найлепшы час на кампанейскія ці сямейныя сустрэчы. Але пазнаёмішся з цікавымі людзьмі, атрымаеш файныя прапановы. Настрой табе не папсуецца, хаця будуць нервовыя сітуацыі. Каханне можа стаць перад выклікамі. Праца прынясе табе многа задавальнення, але калі можаш паказаць у ёй сваю індывідуальнасць. Кастрычнік актыўны, горш з формай.

**(24.07. — 23.08.)** Чакаюць цябе вялікія прафесійныя выклікі, а дробныя перашкоды зробяць іх цікавейшымі. Падвучвайся. Зможаш выкарыстаць кожную нагоду. Няўдалыя сувязі і таксічныя адносіны зверыфікуюцца. Мноства заданняў, асабліва інтэлектуальных, спадзявайся курсаў, абучэнняў, прапаноў студыяў. Будуць павышэнні аплат або чагосьці, што дагэтуль меў ты дарам. Не адкладвай візіту ў лекара.

**(24.08. — 23.09.)** Станеш аўтарытэтам і знойдзеш выйсце з кожнай сітуацыі. Задзівіш спрытам і арганізаванасцю. Лёгка наладзіш кантакты, заваюеш сімпатыю. На працы магчымы новы шэф, новая палітыка, новы напрамак дзеяння. Шукаеш новую работу? Падкрэслівай свае перавагі: арганізаванасць, дакладнасць, умеласць супрацы. Старайся жыць актыўна. 1-3.10. можа выявіцца тое, што ты хацеў бы схаваць.

**(24.09. — 23.10.)** Маеш энергію, сілу, рысуй смелыя планы. У каханні калі менш будзеш патрабаваць, больш атрымаеш. Сонца цябе падтрымлівае, лягчэй будзе вырашыць праблемы і справіцца з рашэннямі. Шчыра размаўляй у пары. 1-3.10. не выказвайся бяздумна. На працы кінеш выклік канкурэнцыі. Справішся з самымі цяжкімі сітуацыямі, можаш нават заняць месца шэфа. Дбай аб сваю скуру.

**(24.10. — 22.11.)** Лепшыя адносіны з супрацоўнікамі, раднёй бліжэйшай і далейшай, суседзямі. Можа аказацца, што засумняваешся ў сябе, але спрыяе табе Венера, жыццё набярэ колераў, паявіцца шмат падстаў для хваляванняў і радасці. Вострая інтуіцыя. Дома шчасце і мілыя штодзённыя прыемнасці. На жаль, нізкі ўзровень тваёй энергіі. Схадзі да добрага цырульніка, касметолага — зробяць цуды!

**(23.11. — 22.12.)** Будзеш узорам працаўніка, партнёра. Толькі не мяняй сваіх думак, бо выклічаш хаос. Поўная мабілізацыя. Крыніца сілы — Сонца. Можаш рэалізаваць амбітныя планы. На працы праекты пачатыя ў верасні набяруць тэмпу, не мяняй толькі ўмоў. Не выхіляйся з навінкамі. Грошай хопіць, але лепш іх заінвестуй. Вельмі пільнуйся ад прастуды.

**(23.12. — 20.01.)** Жыць будзеш весялей і актыўней. Пакуль апынешся на пад'уме, трэба будзе папрацаваць і змераць свае сілы з канкурэнцыяй. Будзеш падымацца ўвысь. Можаш трапіць у цікавыя месцы. Будзеш паслядоўны і дбайны. На працы канец з тупаннем на месцы. Зрабі смелы рух, хаця не адразу будзе поспех; будзь цярплівым.

**(21.01. — 19.02.)** Могуць цябе не зразумець. Магчымыя сямейныя спрэчкі, дык пільнуйся, што кажаш. Маўчанне — золата! У каханні і фінансах пойдзеш па сваё. Многа энергіі. Будзеш фліртаваць, але хутчэй праз інтэрнэт. Дома справішся з абавязкамі і сарганізуеш сваякам вольны час. На працы дэвіз: што маеш зрабіць заўтра, зрабі сёння, праз тыдзень будзе поспех. Папраўіцца здароўе і імунітэт (зрабі прышчэпку ад грыпу).

**(20.02. — 21.03.)** Будзеш прыгожы і захапляльны. Адважышся на такое, аб чым нясмела марыў. У час падарожжа, экзаменаў і важных размоў разлічвай на Меркурыя. Заззяеш красой. Гарантаваная папулярнасць! Можаш памагацца за найвышэйшую стаўку. На працы даведаешся, на чым стаіш. Не перанапружвайся, але не пакідай візітаў на басейне. Часта праветрывай хату.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**




# З дарогі

Хата ў Бярвісе

Тым, хто любіць нечаканасці, цяпер на нашай Беласточчыне проста рай. Ну, хопіць выбрацца ў нейкае падарожжа нашым публічным транспартам і нечаканасцей маеш удоваль.

Вось нядзелька, 22 верасня. Прыязджаю ў наш ваяводскі цэнтр загарадным аўтобусам і злажу з яго на прыпынку каля Юравецкай галерэі. Падаюся на прыпынак гарадской камунікацыі на вуліцы Сянкевіча, чакаю аўтобусаў у напрамку Новага Места. Спыняюцца ўсе, а патрэбных мне няма; чакаю амаль паўгадзіны. Нейкая жанчына інфармуе, што ездзяць яны па алеі Пілсудскага. Перамяшчаюся туды і, сапраўды, едуць мне падарожныя. Нечаканасці магло б і не быць, калі б арганізатары публічнага транспарту загадзя павесілі на прыпынках лісточкі з адпаведнай інфармацыяй. Закалот узнік у выніку арганізавання ў той дзень у Беластоку масавых бегаў. Ініцыятыва добрая, якая на мэце мела прапагандаванне здаровага ладу жыцця, банэры пра мерапрыемства з'явіліся ў гарадской інфармацыйнай прасторы шмат тыдняў загадзя, аднак цягам тых тыдняў адпаведныя чыноўнікі не падумалі пра камунікацыйную інфармацыю. Тая інфармацыя, праўда, з'явілася ў сеціве, але ж не кожны пасажыр заглядае ў тое павуцінне, а калі і загляне, дык не штудзіруе ўсяго. А калі той пасажыр раней шага вываду на гэты свет і з сецівам не панібрацкія ў яго адносіны, то і пасля прыходзіцца яму шпарка расходаваць свае ногі ды нервы.

Вось субота, 21 верасня. Збіраюся ў чыгуначнае падарожжа, па лініі у Чаромху. Тая лінія вельмі руплива рамантуецца і цягнікі па ёй ездзяць або адпачываюць і тады курсіруюць эрзацныя аўтобусы — не па рэйках, толькі па суседніх асфальтоўках. Прашу ў кандуктара білет у Леўкі і чую ў адказ, што праз Леўкі аўтобусны цягнік не цягнецца, толькі цераз Орлю. А прычынай гэтаму перабудова чыгуначнага пераезду менавіта ў Леўках. Але гэтая перабудова не ў рамках чыгуначных рамонтаў, але ў рамках грунтоўнага рамонту шашы з Бельска ў Кляшчэлі. Той рамонт меў адбыцца некалькі гадоў таму, калі запускалі завод IKEI ў Кошках, але тады не атрымалася; ну, лепш і пазней чым ніколі. Спадзяваўся я, што тая шаша будзе рамантавацца згодна з апошнімі тэндэнцыямі, значыць абміне дзве доўгія вёскі, праз якія яна дагэтуль праходзіла: Малінікі і Сухавольцы. Так, як шаша з Гайнаўкі ў тыя ж Кляшчэлі абмінула Елянку. Але тут нешта не атрымалася і машыны з Бельска ў напрамку Полаўцаў надалей будуць займаць слых і зрок жыхароў гэтых дзвюх шматлюдных калісь вёсак. Магчыма, што перабудаўнікі гэтай дарогі палічылі вуліцы ў гэтых мясцовасцях настолькі шырокімі, што хопіць на іх месца і больш мадэрнай дарозе. Добрае ў гэтым мерапрыемстве тое, што побач галоўнага насцілу будуецца і веладарожка.

Пра новую дарогу з Саколкі ў Дуброву згадваў я тут нядаўна, пра адрэзак з Сакалян да Саколкі. А як тая дарога выглядае далей; як яна абыходзіць тыя мясцовасці, што па прамусенькай лініі пацягнуліся з Сякеркі ў Асмалоўшчыну? Сеў я на цягнік і падаўся ў Сідру, адкуль недалёка і да навастройкі. З чыгуначнага прыпынку ў Сідры пашпарыў я не па традыцыйнай там мне дарожцы ў гмінны цэнтр, але па іншай, якая пацягнулася побач пуцей, мяркуючы скараціць сабе маршрут у Бярвіху, бо гэтая вёска здаецца быць найбольш цікавай. Перада мною па той дарожцы паехала легкавушка, якая пасля апынулася па другой старане пуці. Неўзабаве і я дайшоў да пераезду, перад якім красавалася інфармацыя, што гэта прыватны пераезд выключна для прыватнага карыстання. Пераезд з абодвух бакоў быў закрыты фортачкавымі шлагбаўмамі, звязанымі страпочкамі. На Сакольшчыне можна пабачыць многа цікавага...



Прыватны пераезд

Далей пайшоў я па рэйках аж да чарговага пераезду, на які нічога не забаранялася. Палявой дарогай патэпаў я ў напрамку Бярвіхі. Раптам у шчырым полі з'явілася асцярога, што зараз уезд на будову. І за гэтай інфармацыяй паказалася паласа асфальту пасярод чыстага поля. Так-так, гэта тая новая дарога, на якую мае неўзабаве перамясціцца рух паміж Саколкай і Дубровай; яна вытрасіравана пасярэдзіне паміж існуючай шашой і чыгуначнай лініяй.

Крыху далей Бярвіха. Стаў я ўглядацца ў тое месца, дзе калісь быў звочыў закінуты двухпавярховы школьны будынак. Удалося мне яго яшчэ ўбачыць; магчыма, што неўзабаве трэба будзе туды прадзірацца цераз лясны гушчар. Зарос той асветны будынак густым лясочкам, нікому ён не цікавы. А ж пабудаваны ён быў размашыста, на ўзгорку, два паверхі...

Яшчэ сорак адзін год таму Мікола Гайдук так быў пісаў пра тую школу: „А ў новую прасторную і светлую школу, што высіцца якраз на пагорку „могілкі", ходзіць усяго невялічкая жменька дзетак". А крышку раней: „Сёння над Бярвіхаю зрэдку толькі пачуеш звонкі дзявочы ці юнацкі голас. Моладзь, атрымаўшы вышэйшую адукацыю (...) назаўсёды пакінула родную мясціну. Тыя, хто астаўся ў роднай хаце, у ёй усяго толькі госцьмі: вечарам прыязджаюць, а раніцай выязджаюць з яе на работу ў ПГР Макаўляны, мяшальню кармоў у Сідры, фабрыку будаўнічай сталяркі ў Саколцы, перагрузачную станцыю ў Генюшах".

Мікола Гайдук любіў заглыбіцца ў гісторыю, пашукаць там каранёў для сучаснага грамадскага ландшафту. Вось так ён тады пісаў пра агульнае мінулае тых мясцовасцей, якія мае мінуць сучасная шаша: „Надта ж цікавыя сляды пакінула гісторыя на нашай зямельцы. Возьмем хоць бы тую, найдаўжэйшую на Беласточчыне вёску, што цягнецца кіламетраў з пятнаццаць ад самай Дубровы-Беластоцкай і аж да палавіны дарогі ў Саколку. Вучоныя мяркуюць, што гэтае бясконцае сяло — вынік славутай „Уставы на валокі" з 1557 года, якую вельмі паслядоўна правялі па загадзе і пад пільным наглядам самой каралевы польскай і вялікай княгіні літоўскай Боны землямеры ў „гаспадарскіх" маёмасцях Вялікага Княства Літоўскага. Параскіданыя ў бязладдзі на захад ад рэчкі Сідры сялянскія паселішчы загадалі яны сцягнуць і паставіць паабапал гасцінца, што ўжо ў той час быў пракладзены ўскрай тадышніх Кузніцкай і Навадворскай пушчаў па градзе надрэчных пагоркаў. (...) І так з таго часу сядзяць на надсідранскіх пагорках, з Асмалоўшчыны пачынаючы і на Сякерцы канчаючы, некалькі частак гэтага сяла-ланцуга. Адна з гэтых частак завецца Бярвіха. Таямнічая, дзівосная назва. Але толькі на першы погляд. Аказваецца, якраз праз яе працякае з паўднёвага захаду на паўночны ўсход, перасякаючы яе і кіруючыся ў бок рэчкі Сідры пакручастая рачулка Бярвіха. Ад назвы рэчкі займела назву і частка сяла. Але гэта, вядома, не выясняе таямніцы назвы, хоць значна аблягчае яе разгадку. А гэта таму, што „бервай" на беларускіх землях называюць „кладку з бярвенняў ці тоўстых жардзін на гразкім месцы", а рэчка Бярвенка знаходзіцца на суседняй Гродзеншчыне (бярэ свой пачатак каля м. Берышты). Такім чынам назва „Бярвіха" калісьці абазначала гразкую рэчку з многімі на ёй кладкамі".

Самай асаблівай асаблівасцю Бярвіхі з'яўляецца валун побач шашы і згаданай рачулкі, звенчаны жалезным крыжом. На ім высечаны надпіс: „A. D. 1655 Moskal Litwę splądrował złamawszy mir wieczny". Мікола Гайдук так патлумачыў гэтую дату: „Рускія войскі на чале з ваяводам Чаркаскім і ўкраінскія пад кіраўніцтвам атамана Залатарэнкі ў жніўні 1655 года ўзялі Коўна і Гродна. Відаць, іменна тут, на балоцістых берагах Бярвіхі, адбылася адна з іх бітваў. Хоць потым тутэйшыя землі і патанулі ў крывавых падзеях „шведскага патопу", аднак памяць аб бітве на рацэ Бярвісе не загінула. Помнік з ружовага гранітнага каменя-валуна пачаткова, мабыць, быў пастаўлены на стромкім надрэчным пагорку, які тутэйшыя людзі і па сённяшні дзень завуць «могілкі»". Гэта якраз той пагорак, на якім якраз зараз стаіць прызабыты школьны будынак.

Паводле адной з легенд, згаданы валун рос, асабліва ж тады, калі ў 1939 годзе завіталі саветы. Загадалі яны сваім сапёрам узарваць валун. Але на той час з'явіўся там іншы атрад, які прагнаў сапёраў. А пасля танкісты сапхнулі валун у рачулку. Чарговыя гаспадары, немцы, загадалі выцягнуць яго адтуль і паставіць побач дарогі. Магчыма, што неўзабаве ён у чарговы раз зменіць сваё месца. Некалькі метраў далей відаць нядаўна збудаваны падмурачак; магчыма што туды будзе пастаўлены гістарычны валун, бо ж занадта блізка стаіць ён пры дарозе. Усяляк бывае — можа хто захоча разагнацца на машыне з горкі ў рачны яр і не ўспее з валуном размінуцца...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960

